# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Аднаўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №23 (144) 20 ВЕРАСЬНЯ 1999г.

## «Мы там убачылі кроў на асфальце...»

**Станіслаў Багданкевіч пра зьнікненьне Віктара Ганчара**

*на старонцы 3.*

зь Беларусі
за суботу й нядзелю

### У Нью-Ёрку засядала Рада БНР

Рада БНР пастанавіла, што міжнародныя арганізацыі ня мусяць даваць Лукашэнку грошай і дапамогі, пакуль ня вызваленыя палітзьняволеныя, пакуль ён народ прыцясьняе і Канстытуцыю перакручвае. Івонка Сурвілла назвала Сямёна Шарэцкага «легітымным кіраўніком улады ў краіне», але сія-тыя сябры Рады казалі, што калі Шарэцкі й дэпутаты за Беларусь, хай бы спачатку абвесьцілі дзяржаўным бел-чырвона-белы сьцяг. Пасол Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША па асобых даручэньнях Рос Вільсан праінфармаваў, што пад час апошняга візыту расейскага прэм'ера ў ЗША зь ім строга гаварылася пра Беларусь, і будзе так гаварыцца надалей.

### У Вярхоўным Савеце

Учора дэпутаты правялі ў Менску паседжаньне. Спачатку ў 9.50 яны сабраліся ў кінатэатры «Перамога». Толькі праз 40 хвілінаў іх знаходжаньне вылічылі «органы» (арэнду афармілі на нейкую фірму, быццам бы на правядзеньне сэмінару «Сучасны стан беларускай літаратуры») і прымусілі дырэкцыю выгнаць іх. Тады яны пераехалі ў офіс АГП і ад 11.00 засядалі там. У «Перамозе» заслухалі мандатную камісію, пазбавілі паўнамоцтваў 116 дэпутатаў, што парушылі Канстытуцыю. У офісе рашылі: пакуль улады ня скажуць, куды дзеліся Ганчар, Захаранка ды іншыя, перамовы немагчымыя (прапанова Домаша), і што няма чаго лібэралдэмакратаў і ўсякіх круцялёў уводзіць у грамадзкую дэлегацыю на перамовы (прапанова дэпутатаў ад АГП). Вёў паседжаньне віцэ-сьпікер Цярэня.

### Вуячыч памёр

Сьмерць злавіла яго ў 65 гадоў. Хварэў ён на рак горла. Дактары ўжо спадзяваліся лепшага, але 17 верасьня спынілася сэрца. Быў ён найпершым сярод афіцыйных беларускіх сьпевакоў. Саветы яго часта за мяжу пасылалі. Голас у яго быў высокі, такія галасы падабаліся ў 60-я гады. Перамагаў ён зь ім на конкурсах у Баўгарыі і ў Токіо. Разьвітваліся ў суботу ў філярмоніі.

### Сьвятло ў 5 разоў падаражэла

У краіне пачалі «экспэрымэнт». Людзям устанавілі нормы, колькі сьвятла спажываць. За спажытае звыш нормы трэ будзе плаціць пяцікроць. Калі чалавек жыве адзін у доме з газпліткай, норма — 60 кВт, з электрапліткай — 90 кВт, зь печкай — 75 кВт. Калі ў сям'і двое, то з газпліткай — 75, зь печкай — 120, з электрапліткай — 145. Калі трое, з газпліткай — 90, з электрапліткай — 180 і г.д. Якія пэнсіянэры маюць газ, жывуць удваіх, дык адным халадзільнікам «Ака» выбіраюць свой ліміт. А маючы яшчэ тэлевізар, маразільнік, прас, лямпачкі, сокавыціскалку і фэн, будуць плаціць у 3,5 разы болей, чым плацілі.

### У школу коньмі

У Маларыцкім раёне малых на вучобу — хто жыве далей за 4 км ад школы — будуць коньмі вазіць. Так закамандаваў райвыканкам, піша БелаПАН. Бацькам прапанавалі скінуцца на салярку. Тыя б радыя, але ж паліва і за свае грошы няма. Хоць бы ваўкі дзяцей не паелі!

# СЬМЯРОТНАЯ САМОТА МАСТАКА

## *Мікола Цудзік зрабіў самае страшнае, ня вытрываўшы менскага адчужэньня*



Мікола Цудзік

Днямі да мяне нечакана зьвярнулася спадарыня Івонка Сурвілла, прэзыдэнт Рады БНР, з пытаньнем, ці ня ведаю я чаго пра сьмерць мастака Міколы Цудзіка. Я ня ведаў.

Пра ягоную сьмерць не напісалі газэты, не сказалі радыё, нават «Літаратура і мастацтва» не азвалася радком у жалобнай рамцы.

Мікола Цудзік перарваў сваё жыцьцё сам.

На роспыты ў Менску адны шчыра дзівяцца, бо дазнаюцца пра гэта ўпершыню. Другія паціскаюць плячыма й кажуць, што ня дзіва, бо Цудзік сам быў дзіўным. Трэція ня могуць паверыць, як такі энэргічны ды жыцьцярадасны, знаны ў Менску чалавек мог гэнае ўчыніць.

Не адразу зразумеўшы маё пытаньне, мастацтвазнаўца Яўген Шунэйка красамоўна патлумачыў, які Цудзік нефармальны й незвычайны чалавек, а што да мастацтва, то, на ягоную думку, «у Цудзіка ўсё наперадзе». Пра сьмерць мастака ён ня ведаў.

Ён адчайна хацеў увагі й цеплыні ад сваякоў і ад чужых. Валянціна Трыгубовіч, рэдактарка часопіса «Мастацтва», распавяла, што добра памятае адну сьцюдзёную зімовую ноч, калі яна дабіралася дахаты з абярэмкам палотнаў Цудзіка. Тады ў інтэрнацкім пакойчыку паэта Анатоля Сыса мастак зладзіў выставу й паклікаў усіх, каго мог. І кожнаму дарыў свае творы. Шмат карцінаў падарыў ён удзельнікам Зьезду беларусаў сьвету.

Гэтак жа, напрыклад, было, калі аднаго разу на выставу М.Цудзіка ў Доме мастацтваў завітаў Адам Глёбус. Яны там добра выпілі, і Глёбус сказаў мастаку, што калі той падорыць яму карціну, то ён пра яго нічога кепскага пісаць ня будзе. Цудзік кінуўся да сьцяны, зьняў і аддаў Глёбусу пэйзажык з жанчынаю й казой.



Мікола Цудзік. Лета

Мастак Пятроў-Хруцкі распавёў, што пазнаёміўся зь ягонымі карцінамі ў Парыжы ў беларускім асяродку, якім апякуецца сп.Шыманец. А ў мінулым месяцы пабачыў афішу Палацу мастацтва, якая паведамляла пра пэрсанальную выставу М.Цудзіка. Хацеў быў завітаць, але ня выбраўся.

Людзі кажуць так: на адкрыцьцё гэтае юбілейнае, да 50-годзьдзя, выставы не прыйшоў ніводзін зь сяброў мастака, ніхто зь сяброў суполкі «Пагоні». Ніхто не прыйшоў, апроч тых, каму «палажана было». І гэта стала канцом. Быў пачатак жніўня, мёртвы сэзон у Менску.

Пісьменьніца Паўліна Сьцепаненка (Качаткова) кажа, што й дагэтуль ня можа паверыць у гэткі сцэнар разьвітаньня са сьветам калярытнага чалавека, якога кожны быў гатовы запрасіць на чарку.

Самагубства мастака... У гісторыі мастацтва было іх шмат: праблемы ў стасунках зь людзьмі, калегамі, публікай. Але я не магу прыгадаць, каб нехта зь беларускіх мастакоў сыходзіў гэтак безнадзейна і самотна.

Менск, вялізны Менск, горад, дзе разгортваюцца мільёны жыцьцяў і дзе чалавека забываюць гэтак проста й натуральна... Нібы згаслую іскру, якая толькі што магла апекчы, а больш яе няма. «Што зробіш, — кажа паэт Адамовіч, — а ці згадае хто мяне?..»

**Сяргей Харэўскі**

# Інтэграцыя выбухаў з прапажамі людзей

## *Марыянэтачны ўрад Лукашэнкі выкарыстоўвае тэракты ў Расеі для ўмацаваньня дыктатуры*

У мінулы чацьвер позна ўвечары зьнік выканаўца абавязкаў старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Віктар Ганчар. Незалежныя назіральнікі зьвязваюць гэтае здарэньне з падрывамі жылых дамоў у Расеі, у выніку якіх загінулі сотні людзей.

Там падрываюць дамы, тут прападаюць дзяржаўныя дзеячы. Спачатку Віньнікава, потым Захаранка, загадкавая сьмерць Карпенкі, потым Ганчар, далей — хто заўгодна. Так Беларусь адгукаецца на падзеі ў «саюзнай дзяржаве». Спачатку Буйнацк, два разы Масква, Валгадонск, далей — дзе заўгодна. Каму гэта выгадна? Кажуць, найперш Ельцыну і ягонаму атачэньню. У нас — чалавеку, які пяць гадоў спрабуе агучваць усё, што выгадна Ельцыну. На мінулым тыдні гэта прывяло да адкрытай падмены паняцьцяў.

Лукашэнка наўпрост рэтрансьляваў загады расейскага міністра ўнутраных справаў Рушайлы сілавікам — прачэсваць падвалы, жылы фонд, каўказцаў. У дадатак — забараніць мітынгі і закрыць апазыцыйныя газэты. Словам, безь пяці хвілін надзвычайнае становішча. Калі такія меры нічым не апраўданыя, іх вынікам можа быць толькі ўсеагульны псыхоз і дэзарыентацыя насельніцтва. Гэта заўсёды на руку хапужнай або няздатнай,



Фота IREX-ProMedia.

або нелегітымнай уладзе. А каб насельніцтва ня ўбачыла падмены паняцьцяў (у гэтым выпадку — падмены краінаў), на поўную катушку працуюць у Беларусі расейскія тэлеканалы, ствараючы ілюзію рэальнай пагрозы і для нашых дамоў. Адзінае інфармацыйнае поле і натужлівая прапаганда пра тое, што Беларусь без Расеі ня можа, мы асуджаныя жыць у адной дзяржаве — усё гэта дае свой плён. Людзі ў Менску ці Гомелі сапраўды пачынаюць баяцца начных выбухаў. А «меры» сілавікоў толькі нагнятаюць псыхоз. Так адцягваецца ўвага ад правалаў у эканоміцы, ад неўраджаю, ад мізэрнага заробку. Пад шумок прыбіраюцца палітычныя апанэнты.

Расейскія тэрарысты служаць нагодай прыгадаць беларускую апазыцыю. Зараз дзе што адбудзецца, і Лукашэнка, не зьміргнуўшы вокам, назаве вінаўнікам тэракту таго ж Ганчара.

Падмена паняцьцяў у шырокім сэнсе — гэта падмена беларускіх нацыянальных інтарэсаў расейскімі, якія адстойваюць у Беларусі Лукашэнка з сябрамі, дэманструючы паводзіны клясычнага марыянэтачнага ўраду. Пры поўным правале інтэграцыі *з Расеяй* дэ-юрэ напралом вядзецца фактычная інтэграцыя *ў Расею*. Створана адзінае інфармацыйнае поле, у якім канал БТ — ня больш чым трэцяй рукі абласная тэлестудыя. Лукашэнкава газэта ўводзіць рубрыку «Они о нас», дзе пераказваюцца артыкулы заходніх газэт пра ўсялякіх Беразоўскіх з Гусінскімі (хто тут яны і хто мы?). Беларускае палітычнае поле ўжо сёньня гатовае ўключыцца ў фэдэральныя выбары. Тут вам і свае «яблыкі», і свае «ацечаствы», і камуністы, і жырыноўцы... Эканоміка таксама гатовая легчы пад расейскіх алігархаў, бо цалкам завязаная на суседняй краіне. Заканадаўства проста замяняецца на расейскае, бо менскія «палатнікі», мабыць, і самі ўжо зразумелі, якога навытваралі абсурду. Застаецца толькі падмахнуць паперку пра «ўзьяднаньне». Народ падтрымае.

Народ, безумоўна, падтрымае. Ён, небагаты і несвабодны, цяпер заваражваецца агульным страхам. Слова пра пагрозу тэрарызму Беларусі прамоўлена. Цяпер трэба толькі з большым імпэтам глядзець у тэлевізары маскоўскія выбухі і хутчэй аб'ядноўвацца ў адну дзяржаву, каб у чачэнскіх мсьціўцаў зьявіліся сапраўдныя падставы ўзарваць што-небудзь і ў нас.

**Сяргей Паўлоўскі**

## У нумары:

### ПОШТА З ІНТЭРНЭТУ

Гэтым разам мы публікуем пару водгукаў і допісаў, якія прыйшлі на адрас электроннай вэрсіі газэты ў інтэрнэце і на наш электронны адрас.

***

*Раней у вас была добрая рубрыка: лепшая кніга месяца ці году. Куды падзеўся рэйтынг лепшых кніг XX ст.? І яшчэ да аўтараў: калі ласка, паболей рэцэнзіяў, вялікіх і малых, нават такіх паведамленьняў як «Кнігі, дасланыя ў рэдакцыю». Гэта проста патрэбна.*

**Юрась Каляда**

***

*Рэцэнзія пра кнігу Бутрамеева — зашмат авансаў і камплімэнтаў. Пачаў чытаць у «Дружбе народаў» гэную «Карону» і кінуў — занадта падлеткавая, як на мой сярэдні ўзрост, хоць і правільная, у так бы мовіць, ідэалягічным сэнсе.*

**Адзін парань**

***

*Куды падзелася паласа «Навука»? Такі файны быў пачатак!*

**Пітэр**

***

*Кажуць, што наш Мядзельскі раён зьнікне з карты рэспублікі. Частку забярэ Ціцянкоў пад нацыянальны парк (заапарк?), а рэшту аддадуць у Вялейскі раён.*

**Нарачанец**

***

*Калі нашы палітыкі ня маюць сказаць нічога, акрамя таго, што яны гаварылі ўжо чатыры гады таму, дык хай бы й не давалі інтэрвію, тым больш «Нашай Ніве». Ніколі нічога канкрэтнага, ніякай канкрэтнай праграмы ня маюць. «Канстытуцыйны лад, рынкавыя рэформы, гарантыі для інвэстараў...» Трэба проста ў першы дзень пасьля прыходу да ўлады ў чатыры разы падняць заробкі дактарам, у тры разы — настаўнікам, у першы ж тыдзень выселіць усіх бамжоў у Хоцімскі раён, для злосных рэцыдывістаў (за любыя злачынствы) увесьці неадменнае пажыцьцёвае зьняволеньне і стварыць нармальную, сапраўды нацыянальную, гвардыю. Вось што хочацца чуць, канкрэтыку, а ня іхныя нюні.*

**Пятро Краўцоў**



# ЮБІЛЕЙ АПТЭКІ-МУЗЭЮ

Споўнілася тры гады Гарадзенскай аптэцы-музэю. Яна паўстала ў тым самым будынку, дзе ў 1687 г. упершыню на Беларусі для патрэбаў школы мясцовага калегіюму езуітаў стварылі аптэчны аддзел. З гады таму фірма «Біятэст» правяла рамонт гэтага памяшканьня. Гарвыканкам выставіў ёй умову: арандуйце памяшканьне, калі абсталюеце там аптэку, створыце музэй і трымацьмеце пасаду навуковага супрацоўніка. Экспанаты аптэкі распавядаюць пра гісторыю гарадзенскай фармацыі. Маюць тут шмат старых сыгнатураў, то бок рэцэптаў, дакумэнтаў і прылад. Старшы навуковы супрацоўнік аптэкі, урач Фёдар Ігнатовіч, нагадвае, што першы ўпамінак пра дзьве гарадзенскія аптэкі адносіцца да 1654 г. Для польскіх турыстаў асабліва цікава, што менавіта ў былой аптэцы мястэчка Ліпнішкі ў 1894 г. Юзэф Пілсудзкі заклаў падпольную друкарню й выдаваў месячнік «Работнік».

**З Горадні — Антон Лабовіч**



*НЯ НІШЧЫ! НЕ ВЫКІДАЙ! ЗАХОЎВАЙ!*

Архіў Найноўшае Гісторыі зьвяртаецца да грамадзянаў Беларусі і беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Сучасная гісторыя адлюстроўваецца ў тых пазацэнзурных выданьнях і ўлётках, якія цяпер шырока распаўсюджваюцца ў краіне. У Беларусі зноў узьнік самвыдат.

Дасылайце гэтыя матэрыяльныя сьведчаньні ў наш Архіў. Беларускае грамадзтва набывае сваю гісторыю.

*Паштовы адрас Архіву Найноўшае Гісторыі: а/с 71, Менск, 220123.*

*Электронны адрас:anh@belsonet.net.*

# ВІНЦУК ВЯЧОРКА ON-LINE

***Канфэрэнцыя on-line з удзелам Вінцука Вячоркі адбывалася ўвечары 17 верасьня ў жывой прасторы Інтэрнэту. Любы мог падлучыцца да сеткі і задаць пытаньне. Мы падаем у скарачэньні тэкст гэтай канфэрэнцыі.***

***BeBe:*** *Добры дзень. Мы рады вітаць Вас на он-лайнавай канфэрэнцыі Вінцука Вячоркі, аднаго зь лідэраў Беларускага Народнага Фронту.*

**Вінцук Вячорка:** Вітаю ўсіх.

***BeBe:*** *Давайце раскажам наведнікам апошнюю інфармацыю пра зьнікненьне Віктара Ганчара.*

**В.В.:** Я ведаю, што яго разам зь ягоным калегам чакалі дома сёньня ўначы, але ён прапаў. Пачакаем суткі.

**Дзік:** Што нас чакае 30—31 кастрычніка?

**В.В.:** Другая сэсія зьезду БНФ, якая выбера кіраўніцтва, прыме заявы й плян дзейнасьняў. Я асабіста прызнаю рашэньні зьезду й падпарадкуюся ім.

**Сэм:** Я расеец. Я за незалежнасьць Беларусі, але захаваньне сувязяў з Расеяй. Чаму БНФ трымаецца крайне нацыяналістычных поглядаў?

**В.В.:** Фронт не трымаецца «крайне нацыяналістычных» (чытай — «лё-пэнаўскіх») поглядаў. Мы нацыяналісты-дзяржаўнікі, мы за Беларусь як утульны дом для грамадзянаў любой веры й этнічнай прыналежнасьці.

**Evgenik:** Раскажыце пра вынікі паездкі ў Югаславію.

**В.В.:** Езьдзіў я вучыць і вучыцца. Вучыць адзінству (бо наша апазыцыя, грамадзкі сэктар і незалежныя прафсаюзы менш паколатыя). А вучыцца, як ладзіць масавыя акцыі. Мы падпісалі з адным зь лідэраў Саюзу дэмпартыяў і прафсаюзным дзеячом Б.Чанакам пагадненьне аб супрацоўніцтве: хто хутчэй выправіць свайго дыктатара. Пераможца будзе абавязаны дапамагчы другому дыктатару далучыцца да першага.

**Дзік:** Ці адбудзецца раскол Фронту, на якім настойвае Пазьняк?

**В.В.:** Пастараюся, каб не было. Людзі ня хочуць расколу.

**Light Colonel:** Чаму за дату правядзеньня Маршу Свабоды выбралі менавіта 17 кастрычніка?

**В.В.:** Найбольш зручны дзень з гледзішча «сельскагаспадарчага» і палітычнага: даволі часу падрыхтавацца. Далучыцеся да стварэньня інфармацыйнай хвалі.

**Сэм:** Чаму ўсе намаганьні накіраваныя на выкрыцьцё Расеі, а не на барацьбу са сваім дыктатарам?



**В.В.:** Расея, ейныя інтарэсы прадстаўленыя ў Беларусі Лукашэнкам.

**Bykowski:** Як вы ацэньваеце ўчорашнія выказваньні А.Лукашэнкі наконт дэстабілізуючай ролі апазыцыі?

**В.В.:** Баіцца. І сур'ёзна.

***BeBe:*** *Тут прыйшла новая інфармацыя пра Ганчара... Ён зьнік разам зь бізнэсмэнам Красоўскім («КРАСІКО»), якога абвінавачвалі ў блізкасьці да апазыцыйных колаў.*

**NAY:** Ня думаеце, што Лукашэнка пойдзе на крайнасьці?

**В.В.:** Гэты можа.

**Bykowski:** Ці ёсьць у нас пагроза тэрактаў, як у Расеі? І што, на Вашу думку, было сапраўднай прычынай выбухаў?

**В.В.:** Ня думаю, што барацьба Беразоўскага з Гусінскім. Проста Расеі пачынаюць адгукацца імпэрскія войны.

**Фолкан:** У якіх пытаньнях БНФ можа ісьці на кампраміс і з кім?

**В.В.:** З тымі, хто за незалежнасьць.

**NAY:** Ці дзеяньні Пуціна — ня спроба анэксіі? Ці ня трэба прасіць абароны ў ААН?

**В.В.:** Пакуль мала інфармацыі. Калі пацьвердзіцца наяўнасьць пакту — ёсьць гаранты нашай незалежнасьці.

***BeBe:*** *Яшчэ інфармацыя пра зьнікненьне Ганчара. На вечары памяці Генадзя Карпенкі, які ідзе ў гэтыя хвіліны ў Менску, пасол ЗША Спэкгард заявіў, што амбасады і ўрады заходніх краінаў напружана сочаць за гэтым выпадкам. Пасольства ЗША наўпрост выйшла на адміністрацыю прэзыдэнта й Лукашэнку. Яны патрабуюць, што Ганчар мусіць быць знойдзены ў бліжэйшы час. Мы толькі што зьвязаліся з жонкай Ганчара Зінаідай. Яна ў шоку. Але ніякай новай інфармацыі пакуль няма.*

**tursun:** Пытаньне да арганізатараў: колькі чалавек цяпер падлучана да канфэрэнцыі?

***Адміністратар:*** *На гэты момант 40 чалавек.*

**Ваня:** Можна даведацца падрабязьней пра «гарантаў нашай незалежнасьці»?

**В.В.:** USA, Great Britain, France... і Россия. Яны гарантавалі нашу незалежнасьць узамен за адмову ад ядзернай зброі.

**Letchik:** Хто з прэтэндэнтаў на расейскага прэзыдэнта найлепшы для нас?

**В.В.:** Перабіраю іх «галерэю» і жахаюся. Хіба што нехта з правых, але гэта нерэальна.

**D.Ranicka:** Сп.Вінцук, што будзем рабіць, калі зьнікне яшчэ й, напрыклад, Вячорка?..

**В.В.:** У кожным разе — не зьяжджаць з краіны. Яна ж наша. Змагацца за краіну і за ўсіх зьніклых.

**Дзік:** Як Вы ацэньваеце пазыцыю Віка на перагаворах з уладамі? Вы думаеце, што менавіта абарона інтарэсаў Нямеччыны ляжыць у аснове ягоных дзеяньняў?

**В.В.:** Думаю, амбасадар Вік найперш — дысцыплінаваны чыноўнік, зацікаўлены, каб дайшло да нейкіх перамоваў. А мы зацікаўленыя, каб перад перамовамі набыць інфармацыйную свабоду й павызваляць вязьняў, а самыя перамовы завершыць пастановаю зладзіць выбары ў орган, надзелены рэальнаю ўладаю. Шчыра кажучы, ня веру я ў іхны посьпех..

**Ira:** Вашае стаўленьне да вяртаньня амбасадара ЗША Спэкгарда?

**В.В.:** Хай будзе тут: сам болей пабачыць і пачуе.

**Yahor:** Да Вас зьвяртаецца навучэнец НДГЛ. Як Вы лічыце, чаму цяпер так мала беларускамоўных сайтаў? Ці можа быць будучыня за белНЭТам?

**В.В.:** Кожнаму навучэнцу НДГЛ стварыць белмоўны сайт!

# Станіслаў Багданкевіч: «Мы там убачылі кроў на асфальце...»



**— Найперш, што Вы думаеце пра зьнікненьне Віктара Ганчара?**

— З палітычнага клімату ў нашай краіне, з выступу Лукашэнкі на тэлебачаньні перад сілавымі міністрамі, дзе ён заявіў, што апазыцыянэры — гэта злодзеі, здраднікі свайго народу, што іх трэба гнаць з вуліцаў, я раблю выснову, што робіцца ўсё, каб сарваць перамовы з апазыцыяй. Вадзіцель Ганчара паехаў на месца, адкуль, як мяркуецца, той выехаў, і ўбачыў там кроў на асфальце, разьбітае шкло машыны, сьляды ад удару ў дрэва... Мы зьвярнуліся ў КГБ, міліцыю, але там адказалі нам, што гэта іх зусім не цікавіць. Толькі пасьля таго, як інфармацыя прайшла па тэлебачаньні, а пасол Нямеччыны зьезьдзіў у МЗС да Латыпава, каб выказаць свой пратэст, толькі пасьля міліцыя пагадзілася прыехаць з намі, каб агледзець месца здарэньня. Гэта дзікунства, складаецца ўражаньне, што ўсё гэта — «абшчак», якім кіруе галоўны «пахан». На сёньня ў Беларусі зьнікла чатыры чалавекі, гэта ўжо сапраўдная Лацінская Амэрыка!

**— А за каго Вы баіцеся зараз?**

**— Хто яго ведае, у дзеяньнях улады назіраецца пэўны алягізм. Цяжка зразумець, для чаго ім сёньня Ганчар, нашто ім спатрэбіўся Юры Захаранка, які ня быў нейкім там лідэрам апазыцыі, нават у нашай партыі ён быў членам Палітрады, а потым выйшаў зь яе па асабістым жаданьні, каб займацца сваімі праблемамі, у прыватнасьці, стварэньнем Саюзу афіцэраў. Здавалася б, Лукашэнка ўжо зразумеў сваю непрымальнасьць для палітычнай эліты Расеі, што аніякае месца ў Крамлі яму ня сьвеціць, што трэба пашыраць сваю вэктарную палітыку, ісьці на Захад. Ну, нашто яму цяпер гэта ўсё руйнаваць? Алягізм!**

**— Ці зьменіцца нешта ў падрыхтоўцы да перамоваў пасьля зьнікненьня В.Ганчара?**

— Я б сказаў, што ў нас і да гэтага была маса падобных прэцэдэнтаў: Віньнікава з Захаранкам зьніклі, Чыгір арыштаваны, дэпутаты Кудзінаў і Клімаў таксама ў вязьніцы. Але мы ня бачым іншага выйсьця: або перамовы, якія, пэўне, адбудуцца-такі пад ціскам беларускай грамадзкасьці, або грамадзянская вайна. А мы хочам рабіць усё мірным шляхам. І галоўнае — гэта стварэньне нармальнага палітычнага клімату, клімату даверу.

**— Як ідзе падрыхтоўка да перамоваў?**

— У нас яшчэ не зацьверджаны склад дэлегацыі, перамоваў з уладай пакуль ніякіх не вядзем. Сустракаемся зь Вікам, АБСЭ, распрацоўваем агульную пазыцыю і спрабуем праз папярэднюю дамову дасягнуць таго, каб зараз жа былі вызваленыя вязьні, каб знайшліся людзі, якія нібыта «зьніклі», бо існуе вялікае падазрэньне, што тут не абышлося без уладаў. Наконт Чыгіра Вік нам заявіў, што прадстаўнікі ўлады намякалі, што яны спрабуюць знайсьці шляхі для яго вызваленьня нават у рамках Лукашэнкавага заканадаўства. І вось сёньня ізноў трэба пачынаць ад самага пачатку. Мы будзем патрабаваць адстаўкі ўсіх сілавых міністраў, зьвернемся па падтрымку да кіраўнікоў замежных дзяржаваў, парлямэнтаў. Калі зьнікла ўжо чатыры чалавекі, заўтра тое самае можа адбыцца з кожным з нас.

**— Ці Вы лічыце, што рэпрэсіі могуць узмацніцца?**

— Я ня думаю, што ў геаграфічным цэнтры Эўропы можа паўтарыцца 37-ы год. Улада захоўвае зьнешнія атрыбуты мяккага аўтарытарнага рэжыму: у нас выходзяць апазыцыйныя газэты, дзейнічаюць партыі. Мне нядаўна далі штраф у 50 мінімалак, але ж зроблена гэта было ў рамках закону. Толькі вось прамовы Лукашэнкі не даюць зусім забыцца на рызыку ўзмацненьня рэпрэсіяў.

**— Якой тактыкі будзе прытрымлівацца АГП ў бліжэйшы час?**

— Мы яшчэ на лютаўскім зьезьдзе, задоўга да прапановы Віка, прынялі большасьцю галасоў рэзалюцыю, у якой пазначалася, што мы ня бачым выхаду ў рэвалюцыі, грамадзянскай вайне, і гатовыя пачаць перамовы з уладамі, каб дасягнуць кампрамісу.

**— Які ўдзел будзе браць Вашая партыя ў акцыі, заплянаванай на 17 кастрычніка?**

— Мы ўжо зараз працуем над падрыхтоўкай гэтай агульнанацыянальнай палітычнай акцыі «Марш Свабоды», створаны аргкамітэт. Я накіраваў па сваёй партыйнай лініі ўва ўсе нашыя рэгіянальныя арганізацыі рэкамэндацыі па правядзеньні на месцах пікетаў, шэсьцяў, каб частку людзей накіравалі ў Менск. Гэта будзе ня проста акцыя, яна стане падтрымкай для перамоваў. А цяпер мы амаль штотыднёва ладзім пікеты, патрабуючы вызваленьня палітвязьняў. Палітыкі так званай «новай хвалі» заявілі, што на вуліцы выйдзе каля 100 тысяч чалавек. Я не падзяляю іхнага аптымізму і пры сустрэчы іх крытыкую, бо, калі працаваць так, як яны гэта робяць, можна праваліцца ў сваіх намаганьнях. Акцыя мусіць быць цалкам мірная, мы абсалютна супраць усялякіх так званых «вызвольных» арміяў, рухаў. Нашая партыя, у пэўнай ступені, зьяўляецца інтэлектуальным клюбам.

**— Як Вы ставіцеся да супярэчнасьцяў у БНФ і які бок Вы падтрымліваеце?**

— Вельмі прыкра, што такое адбываецца, гэта мінус усёй апазыцыі. І я, безумоўна, стаўлю не на Пазьняка, таму што ён і расколвае рух. Пазьняк злоўжывае мінулым. БНФ згубіў вельмі шмат сымпатызантаў, і якраз Вячорка, Хадыка, Баршчэўскі выступаюць за яднаньне, за ўзгодненасьць. Паміж сіламі апазыцыі заўсёды існавала лучнасьць, а гаворка пра раскол у апазыцыі — гэта больш прыдумкі журналістаў. Мы заўжды працавалі разам з Фронтам у згодзе, але часам яны атрымоўвалі факс, і гэтая лучнасьць зьнікала. На вуліцы людзі блытаюць «грамадзянаў» з БНФ, і таму нам трэба паказаць нашую адметнасьць: мы, безумоўна, за беларускую дзяржаўнасьць, але мы ніколі ня будзем дзяліць народ па этнічным паходжаньні, па мове.

**— У нядзелю пачынаецца чарговая сэсія Вярхоўнага Савету. Якія пытаньні будуць абмяркоўвацца?**

**— Будзе заслуханая справаздача мандатнай камісіі. На сёньня дэпутатаў, якія ня здрадзілі Канстытуцыі 94-га году, — больш за 80 чалавек, 84 ці 86, зь іх ужо 59 пісьмова пацьвердзілі сваё рашэньне актыўна ўдзельнічаць у нашай агульнай працы. Потым выступіць з дакладам намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Генадзь Цярэня з ацэнкай дзейнасьці Лукашэнкі і эканамічнага разьвіцьця за апошнія пяць гадоў. Будзе разгледжаны зварот кансультацыйнай рады апазыцыйных партыяў з нагоды правядзеньня падрыхтоўкі да перамоваў.**

**— Ці не маглі б Вы зрабіць невялікі аналіз эканамічнай сытуацыі Беларусі?**

— Самае страшнае нават ня сёньняшняе эканамічнае становішча, а тое, што нас чакае ў будучыні, бо ўладу трымаюць «часовыя людзі», якія ня думаюць пра захаваньне багацьцяў, што яскрава бачыцца на прыкладзе амартызацыйных фондаў, якіх у нас практычна не існуе. Абсталяваньне псуецца і не абнаўляецца. Мы падтрымліваем узровень жыцьця за кошт будучых пакаленьняў. А інфляцыя? А неліквідныя зруйнаваныя банкі?

**— Што Вы можаце сказаць пра валютныя рэзэрвы краіны?**

— Калі мы ня можам разьлічыцца з Расеяй за нафту і газ, пра якія валютныя рэзэрвы ідзе гаворка? Яны, бывае, на першае чысло штучна ствараюцца на балянсе: банкам даюцца рублі пад заклад за валюту, а потым гэтыя грошы тэрмінова банкам вяртаюцца. Гэта дзіка, калі банкіры сур'ёзна кажуць пра стварэньне рэзэрваў за кошт фальшываманэтніцтва дзяржавы: выпусьцім, маўляў, 30—40 трыльёнаў рублёў, скупім валюту і гэтак стабілізуем рубель. Нацыянальную валюту можна стабілізаваць толькі праз перавышэньне экспарту над імпартам або праз атрыманьне нізкапрацэнтовых крэдытаў ад міжнародных фінансавых арганізацыяў.

**— Ці пойдзе Лукашэнка на рэфармаваньне калгасаў?**

— Я мяркую, што так, прынамсі, у пэўнай ступені, бо дзяржава ня мае рэсурсаў, каб падсілкоўваць калгасы. Лукашэнка пойдзе на некаторую лібэралізацыю цэнаў на сельгаспрадукцыю, на паступовую ліквідацыю стратных гаспадарак, хоць цяпер яны ўсе такія, бо пры ўраджайнасьці ў 20 цэнтнэраў стратнасьць заплянаваная, а ў нас сёлета ў сярэднім па краіне выйшла 17.

**— На Вашу думку, ці зрабіў Лукашэнка хоць нешта пазытыўнае ў эканоміцы?**

— Ёсьць некаторыя ўскосныя рэчы. Напрылад, дзякуючы ягонай палітыцы, няма вялікай розьніцы ў прыбытках 20-ці працэнтаў самых багатых і 20-ці працэнтаў самых бедных: у нас гэтыя адносіны адзін да трох, а ў Расеі — 1 да 13. Такім чынам, мы маем роўнасьць, але роўнасьць у галоце. Лукашэнка дасягнуў вялікіх ільготаў на пастаўкі расейскай сыравіны: мы плоцім 30 даляраў за кубічны мэтар, там, дзе Літва — 85. Каб гэта яшчэ для нармальнай эканомікі, тады б гэта было ягонай заслугай. Плюс, ён увёў элемэнты пэўнай дысцыпліны. Але ўсё гэта нівэлюецца шкодай, якая прыносіцца ягоным адміністрацыйным кіраваньнем, перарэгістрацыямі сваімі, напрыклад. Уявіце сабе, што я зарэгістраваў шлюб з маёй Вольгай, а пасьля мяне нехта прымушае зноў рэгістравацца: абсурд! Трэба прыклад браць з суседзяў. Ня так даўно быў у Польшчы, дык едзеш, і сэрцу міла глядзець на вёскі, паўсюль адчуваецца, што людзі жывуць добра.

**— Дарэчы, наконт Польшчы. 17 верасьня адзначаліся 60-я ўгодкі ўзьяднаньня Ўсходняй і Заходняй Беларусі. Як яно Вам сёньня бачыцца?**

— Узьяднаньне народу заўсёды карыснае, адмоўным зьяўляецца іншае, што гэта была дамоўленасьць двух дыктатараў і што гэта быў удар у сьпіну Польшчы, якая змагалася з фашызмам. Патрэцяе, я жыў у вёсцы на хутары, а насупраць жыла сям'я, восем дзяцей у іх было. Нябедна жылі, а прыйшлі Саветы: сям'я ўвечары была, а раніцай іх ужо няма, вывезьлі ў Сібір. Ды й мой дзядзя, якога забралі ў польскае войска, патрапіў у палон да немцаў, пасьля вярнуўся дамоў, а як прыйшлі нашыя вызваліцелі, яго без суду — спачатку ў Варкуту, пасьля ў Караганду, потым у Ігарку на вечнае пасяленьне. Я яшчэ памятаю, калі працаваў банкірам, нас адсылалі ў Заходнюю Беларусь вучыцца, як сушыць сена. Тут ня ўмелі, і заходнікі нам паказвалі, як можна сена захаваць. І сёньня ўраджаі там самыя высокія па рэспубліцы, больш за 20 цэнтнэраў, хоць калі браць суседнія польскія землі, то там пад 40.

**— Якія самыя лепшыя якасьці беларуса як працаўніка?**

— Сама працавітасьць, канечне. Але застаюцца саўковасьць, згодніцтва, залішняя кампраміснасьць.

**— Ці працуеце Вы яшчэ ў БДЭУ?**

— На жаль, не, бо была каманда Лукашэнкі забараніць мне допуск да студэнцтва. Часам чытаю лекцыі, але не ў дзяржаўных ВНУ. Я прысьвячаю больш часу эканамічным дасьледаваньням, публікуюся. Чытаў і ў замежжы: у Майнцы, Дусэльдорфе, Чыкага, Санкт-Пецярбургу. Чытаю лекцыі пра наш эканамічны досьвед, якога лепш нікому ня зьведваць. Яшчэ падпрацоўваю: нехта мае грант, звычайна гэта Польшча ці Расея, і мы зь імі супрацоўнічаем. Увогуле ж, я на пэнсіі.

**— Чым Вы займаецеся ў вольны час?**

— Яго ў мяне цяпер амаль няма. Я заўжды быў працаголікам. А маё хобі цяпер — мой сынуля Павал, якому ў жніўні споўнілася чатыры гады. І яшчэ я хацеў бы дадаць, што зараз суджуся, адстойваючы свой гонар. Беларускае тэлебачаньне — Зімоўскі, Дзьмітрыеў — ізноў распаўсюдзіла паклёп, нібы я выдаваў крэдыты сваякам, сябрам і знаёмым, і гэтыя крэдыты не былі вернутыя, што нібыта мае сыны атрымалі крэдыты, якія не зьбіраюцца гасіць. Але ў прыродзе такіх фактаў не існуе. Калі супраць мяне хоць штосьці было б, Вы думаеце, я яшчэ быў бы на волі? Праўда такая, што крэдыты брала фірма, адным з сузаснавальнікаў якой быў мой старэйшы сын. Але крэдыт пайшоў заводу, які пастаўляў машыны. А фірме далі штрафу 1 112 000 даляраў, пры тым што ў іх устаўны капітал быў 500 мільёнаў беларускіх рублёў, і яны збанкрутавалі. І мне пляваць, што давалі крэдыты юрыдычным асобам, мае сыны іх ня бралі.

**— Ці знаёмы Вы зь Івонкай Сурвіллай?**

— Не сустракаўся. А можа і бачыў калі на сустрэчах з дыяспарай, ды толькі не зьвярнуў увагі. Наша дыяспара вельмі слабая, мы нават ня маем у Амэрыцы ніводнага сэнатара-беларуса.

**— Вы самі паходзіце з Валожыншчыны, як Кебіч, Пэрэс, у Вас працаваў Шарэцкі. Чаму менавіта гэтая зямля дала столькі ведамых палітыкаў?**

— Пяскі добрыя.

**— А ці наведваеце калі-небудзь касьцёл?**

— Я, ведаеце, савецкі такі вернік, хоць мае бацькі былі вельмі пабожнымі. Але ўсе мае сыны і ўнукі ахрышчаныя ў каталіцтва.

Гутарыў Анатоль Прасаловіч

# ЦІХАЯ СЬМЕРЦЬ БЕЛАРУСКАГА ГАНДБОЛУ

***Адбор да чэмпіянату Эўропы. Накаўт-раўнд.***
***Беларусь—Украіна 23:23 (першая сустрэча – 21:29)***

Учора ў Менску паўторнай сустрэчай са зборнай Украіны завяршыўся слаўны шлях беларускага гандболу. Некалі славутая і грозная гандбольная дзяржава (у асобе менскага СКА, які браў у 80-я трафэй за трафэем) паступова, крок за крокам, ад пачатку 90-х і да нашых дзён здавала пазыцыю за пазыцыяй. І вось, здаецца, надышоў апошні час беларускага гандболу. Не, гуляюць і будуць гуляць яшчэ некалькі гадоў сёньняшнія зоркі, ёсьць таленавітыя і пэрспэктыўныя маладыя гандбалісты, зрэшты, працягвае працаваць і наш Спартак Міранавіч. Няма толькі элемэнтарнай рэчы, безь якой немагчыма разьвіцьцё вялікага спорту: грошай.

Гульні са зборнай Украіны былі ня толькі гульнямі за выхад у фінал чэмпіянату Эўропы, але й бітвай за будучыню гандболу ў нашай краіне. У выпадку перамогі нашай зборнай яна ня толькі ехала б на чэмпіянат Эўропы, дзе ў яе меўся шанец выйграць паездку на Алімпіяду ў Сіднэй (дарэчы, гандбол — адзіны спорт з камандных гульняў, які тэарэтычна мог прадстаўляць нашу краіну ў Сіднэі), але й трапляла ў лік 12 зборных кантынэнту, якія ад гэтага чэмпіянату ўтвараюць своеасаблівы элітны клюб. Прабіцца ў які астатнім зборным (і, адпаведна, удзельнічаць у фінальных частках чэмпіянатаў Эўропы і сьвету) будзе цяпер надзвычай цяжка. Наша зборная прайграла бітву за будучыню паўднёваму суседу.

А як усё добра пачыналася! У зборную ці ня ў першы раз удалося сабраць усіх мацнейшых легіянэраў (акрамя траўмаванага Баршчынскага). Здавалася, што такім складам змогуць прайсьці ўкраінскі бар'ер. Перакананыя былі ў гэтым і самі беларускія зоркі. Упэўненасьць перад першай сустрэчай вылезла бокам. Пасьля першай гульні шанцаў не засталося. Вывалі праўда, калі беларусы адыгрывалі і 8 мячоў. Але такія подзьвігі рэдкія.

Усю ўчорашнюю сустрэчу ўкраінская каманда ўпэўнена валодала сытуацыяй, на працягу ўсёй сустрэчы вяла адзін-два мячы (альбо лік быў нічыйным), і толькі на апошніх сэкундах беларусы здолелі ўнікнуць паразы — 23:23. Наша каманда гуляла абы-абы. Здаецца, ужо перад матчам гандбалісты ня верылі ў перамогу. Дзьве зборныя выглядалі надзвычай кантрастна: старыя, ня маючыя сапраўднай матывацыі «зоркі» беларускія, і маладыя, імпэтныя ўкраінскія зоркі. Думаю, прозьвішчы Вялікі, Лочман, Нат яшчэ доўга будуць гучаць на гандбольных пляцоўках.

А беларускі гандбол паступова памірае. Калі ва Ўкраіне ў вялікі спорт, а значыць і прэстыж краіны (гандбол, футбол, баскетбол) укладае салідныя грошы прыватны капітал, то ў нас хваленая дзяржава ня можа знайсьці нават мінімуму, які дазволіў бы гандболу выжыць. Сорамна, але пад пытаньнем удзел нашай зборнай у наступным чэмпіянаце сьвету (у фэдэрацыі няма грошай на ўнёсак за ўдзел у чэмпіянаце — пара тысячаў даляраў — ня кажучы ўжо пра выдаткі на самі гульні). Гэта вынік дзяржаўнага валюнтарызму і авантурызму ў спорце.

**Андрэй Андрыеўскі**

## дзе варта быць

**Улюбёнка гопнікаў уфімка Зэмфіра** прасьпявае на «Шайбе», у самым шыкоўным менскім «World West Club» (гэта пры гатэлі «Беларусь»), **23 верасьня а 23-й гадзіне.** Квіткі па 5 мільёнаў.

**А.Прас.**

**24 верасьня а 19-й гадзіне ў Опэры даюць «Фаўста».** У гэтым спэктаклі няма дыхтоўных дэкарацыяў. Касьцюмы пэрсанажаў ня бліпчуць аздобамі эпохі. І частае зьяўленьне хору на падмостках нярэдка стварае ўражаньне канцэрту. Але ёсьць плён агульных намаганьняў Вольфганга Гётэ і Антоньня Радзівіла, а таксама нашага сучасьніка, перакладчыка Васіля Сёмухі.



Вы калі ўяўлялі Тацяну Мархель у ролі путаны? А садамазахісцкія фантазіі вас ніколі не наведвалі? І танец двухмэтровага чэлеса ніколі ня сьнілі? У тэатры «Вольная сцэна» **24, 25 і 26 верасьня** – прэм'ера спэктаклю **«Стомлены д'ябал»,** што нарабіў скандалу ў траўні. Вядомы па «Камэдыі» сюжэт у вэрсіі драматурга Сяргея Кавалёва мовою эпатажу намаляваў рэжысэр Рыд Таліпаў. Пачатак а 19-й. У галоўных ролях Анатоль Кот і Ігар Сігоў.

У рамках антрэпрызы «Віртуозы сцэны» Мікалай Пінігін паставіў спэктакаль **«Бедная Ліза»** паводле Карамзіна. Пастаноўка не прэтэндуе на значнасьць, роўную «Ідыліі» і «Тутэйшым». Атрымаўся мілы жарцік паводле банальнага сюжэту зь лёгкім падцьвельваньнем над расейскім маралізатарствам. Жывы аркестар, арыгінальная сцэнаграфія Марголіна, неверагодна сьмешны тандэм Манаева й Рэдзькі.

**З.Б.**

**21 верасьня** ў Шклове адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё й **асьвячэньне касьцёла Пятра й Паўла.** Асьвячэньне адноўленага храма будзе праводзіць біскуп Менска-Магілёўскі Казімер Сьвёнтак са шматлікімі сьвятарамі.

**Андранік Антанян**

Віцебская гарадзкая Рада БНФ пляную правесьці ў суботу, **25 верасьня,** ў Полацку сустрэчу зь сябрамі аргкамітэту па правядзеньні 2-й сэсіі VI зьезду Фронту. Аргкамітэт будуць прадстаўляць **В.Вячорка, Л.Баршчэўскі, А.Бяляцкі** ды інш. На сустрэчу, якая мае пачацца аб 11.00 па адрасе вул.Пушкіна 15—13, запрошаныя прадстаўнікі ўсіх суполак Віцебску й вобласьці. На сустрэчы абмяркуюць становішча ў Фронце.

**Юрась Корбан**

# ЗА ЧУЖЫЯ КАМАНДЫ

***Зь беларусаў адзін Баранаў гуляе ў Эўралізе***



*Міраслаў Рамашчанка*



*Аляксандар Хацкевіч*

У сераду стартавала футбольная Ліга чэмпіёнаў новага фармату — цалыя 32 каманды з 17 краінаў. Ад пачатку Ліга плянавалася як высокапрыбытковае прадпрыемства, якое б забясьпечвала багатым клюбам Эўропы магчымасьць як мага часьцей сустракацца між сабой. Разьлік быў просты: чым болей разоў на поле адзін супраць аднога выходзяць такія гіганты, як «Рэал», «Барсэлёна», «Мілян», «Ювэнтус», «Манчэстэр Юнайтэд», «Баварыя», тым большую цікавасьць гэта выкліча ў заўзятараў. А гэта азначае рэзкае павелічэньне прыбыткаў ад рэклямы, ад продажу правоў на паказ, ад квіткоў. Вялікі футбол прыносіць гіганцкія грошы.

Старая добрая Ліга чэмпіёнаў перастала існаваць. Нарадзіўся праваобраз адзінага супэрчэмпіянату адзінай Эўропы.

Вялікія грошы, якія вызначаюць у вялікім спорце амаль усё, тым ня менш прапускаюць у свой клюб бяднейшыя каманды з Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы: у гэтым годзе гэта харвацкая «Краацыя», аўстрыйскі «Штурм», чэская «Спарта», славенскі «Марыбор», нарвэскія «Мёльдэ» й «Русэнборг», украінскае «Дынама» і расейскі «Спартак». Летась быў нават фінскі «ХІК». Праўда, каб прабіцца, трэба прыкласьці намаганьні і ўкласьці пэўныя грошы. Але гэтыя грошы вяртаюцца з працэнтамі. За адну толькі перамогу ў групавым турніры каманда-пераможца атрымлівае такія прызавыя, на якія любы наш клюб спакойна пражывае год як мінімум. Але гэта ў нас можна радавацца гадавому бюджэту ў 500 000 даляраў. Клюбы зь Лігі чэмпіёнаў маюць бюджэты ў дзясяткі мільёнаў.

А дзе мы? Чаму «Марыбор» альбо «Краацыя» могуць, а беларускі чэмпіён штогод прайграе ў першым жа раўндзе? Бо «на халяву» ў Лігу не пралезеш. Трэба ўкласьці спачатку некалькі мільёнаў, а дзе іх возьмеш? Бізнэс пакінуў краіну. Рэклямы няма, спонсараў няма. Дзяржава ня можа стварыць канкурэнтаздольны клюб: яна неразваротлівая.

Сёньня нам застаецца падзяліць сымпатыі паміж замежнікамі: палова краіны падтрымлівае кіеўскае «Дынама», дзе выступаюць нашы Валянцін Бялькевіч і Аляксандар Хацкевіч, а другая палова — маскоўскі «Спартак», дзе Васіль Баранаў і Міраслаў Рамашчанка. Праўда, з чатырох у сёлетнім розыгрышы гуляе пакуль толькі Баранаў. Траўмы ў Рамашчанкі і Бялькевіча (які выйдзе на поле не раней за лістапад), Хацкевіч перахварэў на гепатыт В.

Будзем заўзята падтрымліваць чужых — суцяшае толькі тое, што ў Эўропе для нас усе свае.

**А.А.**

# КЛЮБ «СЬВІНОЕ РЫЛА»

***Анархісты адчынілі свой клюб на Валадарцы***

*12 верасьня адчыніў свае дзьверы новы невялічкі, але вельмі спэцыфічны клюб «Сьвіное рыла» (падпольны варыянт — «Рудая зорка»). Месьціцца ён на Валадарцы – 7 пад дахам кавярні «Валерыя». І калі ў нядзелю а 6-й вечара вам захочацца апынуцца ва ўтульнай андэграўндавай атмасфэры, пасёрбаць піва й паглядзець на п'яныя анархісцкія «рылы», што няўключна перасоўваюцца пад гукі стылёвага фано, запрашаем сюды. Мы з гэтай нагоды пагутарылі зь **Лёлікам Ушкіным,** адным са стваральнікаў клюбу.*

— Клюб — частка агульнай кампаніі, якую праводзіць газэта «Навінкі» дзеля папулярызацыі сябе й свайго анархічнага стылю. Прыйшла ідэя стварэньня кавярні, бо анархісты ніколі не зьбіраюцца ў нейкіх там грамадзкіх цэнтрах. Яны тусуюцца ў падобных на нашае месцах.

**— А дзе вы, анархісты, узялі на гэта грошы?**

— Мы проста дамовіліся зь мясцовай дырэкцыяй, каб зьбірацца раз на тыдзень, што й гаспадарам забясьпечвае пэўны прыбытак. Мы ня хочам, каб гэта зрабілася звычайным напівалавам. Канцэпцыя такая: у першай частцы вечара будуць выступы нейкіх аўтараў, паэтаў, бардаў, паказы відэафільмаў, калі дазволяць умовы, а ў другой частцы будзе панаваць атмасфэра альтэрнатыўнай кавярні 20-х гадоў, дзе будуць лабаць сьвінг у духу нейкага бандыцкага прытону. Гэта частка нашай эстэтыкі.

**— Калі й дзе будзе праводзіцца чарговы фэстываль «Раздавім фашысцкую гадзіну!»?**

— Запрашаем усіх 23 кастрычніка ў Палац культуры Трактарнага заводу. Сёлета мы плянуем зрабіць выключна гардкоравую праграму — на сцэну выйдуць «Deviation», «Hate To State», «Сонца Мао», «Правакацыя», напэўна, і нашыя добрыя субутэльнікі зь Піцеру «Бандзінскі».

**— Колькі чалавек аб'ядноўвае на сёньня анархісцкі «Чырвоны жонд»?**

— Гэта чыста буржуазнае пытаньне, у нас няма такога: членскія ўзносы, партбілеты, партыйныя штандары там нейкія... Усё гэта — формы буржуазнага фэтышызму. Мы — антыпартыйная група!

**Гутарыў Анатоль Прасаловіч**

## дзёньнік маладога спэцыяліста

# БЕЛАЕ БАЛОТА

Сяргей БАЛАХОНАЎ

Увосень для беларусаў ё два сама галоўныя занятк і — капаньне бульбы (сваёй ці чужой) ды зьбіраньне грыбоў. На ранішнім цягніку «Гомель — Калінкавічы» штодня едзе сьвет грыбнікоў. Калі ладнейшая іх частка вылазіць з вагонаў на ст.Шчэрбаўка, астатнія дачнікі ці работнікі жартуюць: «Столькі грыбоў не бывае». Але ж зьбіраюць. Нехта — для сябе. Нехта — на продаж, каб дастаць пару разьліковых білетаў на пляшку якіх-небудзь «чарнілаў». Нікога ўжо даўненна не клапоціць радыяцыя. Цікава, што за грыбамі езьдзяць ня толькі цягніком, але й «фольксвагенамі», «мэрсэдэсамі», «аўдзюхамі». Гэта сапраўды здумляе. Ня менш зьдзіўляе нестарое «вольва», на дахавым багажніку якога перавозіцца некалькі даўжэзных дрэвінаў. Адаптацыя самаходу да беларускіх варункаў?

Белабалоцкія вучні задзяўблі ўжо, сто разоў пытаючы, адкуль я прыехаў. Беларуская мова з маіх вуснаў выклікае пэўнае шызеньне (у беларускай школе!). Нехта пацікавіўся, ці ня ў Менску я нарадзіўся. Вось жа, і Белае Балота не абмінула аблуда, што сталіца Беларусі — праўдзiстая цьвярдыня беларускасьці, дзе на белмове балакаюць усе ад мала да веля. Напруг спаклікалі просьбы перайсьці на расейскую. Не зважаючы на тое, што я дзяйсьцвіцельна прылічна ўладзею рускім языком, дзеці зачулі маю суворую адмову.

Калі мяне накіроўвалі ў Б.Б., то нейкі дзядзька ў кабінэце загадчыцы рэчыцкага раённага аддзелу адукацыі сьцяваў дыфірамбы вучням усяго *раёну*: «Ой, ды ў нас жа такія добрыя дзеткі. Ня то што вашы гомельскія». Ну вядома, мяне няслаба аблябёдалі. Вучні белабалоцкае школы часткова ўдакон чаканутыя, часткова — крыху глузданутыя, а астатнія папросту ўдаюць не бяз радасьці зь сябе дэбілаў. Такі ў іх кодэкс паводзінаў, ці што. Быць разумным не ў пашане. Калі ты сядзіш і слухаеш уважліва настаўніка, цікавішся тэмай урока, то ты ў вачох клясчае зграі стаесься вылюдкам-маргіналам. Шануюцца прытыркі, якія могуць ладна аскіразацца з настаўнікам. У гэтым пляне трываць сябе ў руках бывае цяжка, і я разрываюся расейскім матам альбо шуляю якога-небудзь даўбаёба праз галаву. Непэдагагічна? Спадарства, я не пэдагог, я — навуковец. Спадзяюся, прынамсі, на гэта.

Зь першых дзён майго загуменьнага настаўнічаньня адчуваю да сваёй сьціпланоснай асобы непамінальную ўвагу жаночага полу. Маю на ўвазе школьніц. Чарговая дурка, казаў бы, у Б.Б. няма сваіх мужычкоў. Увагу праяўляюць па-рознаму, але збольшага — спакvольнымі жарцікамі. Занадтай палкасьці, цьху-цьху, няма. А то ў лепшым разе загоняць пад вянец у тутэйшай цэркаўцы, а ў горшым — завінавацяць у якой-любя брыдоце. Людзі ўсякія бываюць. Вось ужо «школьнае радзіва» круціць муціць пра маю любоў да васьмікляснiцы Іны Здрок. Выслоўе «Дзе раблю, там люблю» спраўдзіцца яўна ня ў белабалоцкай школе.

Адна мая знаёмая ўпотайкі ад бацькоў павянчалася з адным нашым калегам. Дзея была драмай, мэлядрамай, камэдыяй, каб у выніку стаць тэатрам абсурду. Здыманьне нумару ў гатэлі, гарнітур для жаніха з чужога пляча, праваслаўная царква ў Савецкім раёне Гомеля. Сяброўка мусіла прызнацца бацьком. З мужам (ці як яго зваць у гэтай аказіі?) яны жывуць пасобку. Абедзьве сям'і супраць гэтага шлюбу. Што там творыцца далей, уявіць мне цяжка. Маладая на жыцьці ня можа ўнікаць заблытаных, а нават экстрэмальных сытуацыяў. Дагэтуль зьдзіўляюся, што гэткія людзі ёсьцека насамрэч, а ня ў снах ці кіно. ■

# РАСЕЯ ПАЧЫНАЕ ВАЙНУ З ЧАЧЭНІЯЙ

***Нежаданьне прызнаць незалежнасьць Чачэніі можа давесьці Расею да краху***



Фота АР.

*Масква. Жыхары суседняга дому назіраюць за тым, як разьбіраюць завалы. Ці прагнуць яны помсты?*

У пятніцу ў Маскве на надзвычайным паседжаньні Рады Фэдэрацыі губэрнатары сьпяшаліся дэнансаваць гэтак званыя хасаўюртаўскія мірныя пагадненьні паміж Расеяй і Чачэніяй, падпісаныя пры пасярэдніцтве Беразоўскага генэралам Лебедзем. Пасьля крывавых, але невядома кім учыненых тэрактаў Расея ні з кім дамаўляцца больш не зьбіраецца. Красамоўная дэталь: перад пачаткам паседжаньня дэпутатам паказвалі прапагандысцкі фільм пра дзікасьць каўкаскіх паўстанцаў і жудасныя наступствы апошніх выбухаў у Расеі. Пасьля прагляду цывільныя й вайскоўцы, сьцяўшы кулакі й вусны, адправіліся прымаць рашэньні.

Рашэньне прынятае: у бок Чачэніі кіруюцца новыя дывізіі (на межах Ічкерыі сабралі ўжо да 30 тысячаў войска), чачэнскую тэрыторыю бамбяць самалёты — загінула пад 200 чалавек (за нядзелю расейцы зрабілі болей за 50 баявых вылетаў, паводле зьвестак расейскага тэлеканалу НТВ). У Дагестане працягваюць «зачыстку» тэрыторыі.

Другая дэталь, якую з задавальненьнем адзначалі расейскія журналісты: прэзыдэнт Інгушэціі Аўшаў даў «дабро» на праход войскаў і выступіў супраць чачэнскіх ісламістаў. У Расеі набіраюць добраахвотнікаў да ўдзелу ў чарговай чачэнскай вайне. Яны выбіраюць «добрую вайну замест дрэннага міру». А яшчэ яны выбіраюць хоць якія грошы й занятак замест беспрацоўя й безграшоўя. Пачынаецца вайна як і тая, у 1994-м: ідзе гаворка пра стварэньне «законнага» ўраду Чачэніі. Хіба і штурм Грознага, як і ў мінулы раз, прызначаць на Каляды... У нядзелю ўвечары на расейскім канале РТР выступіў прэм'ер-міністар Пуцін з фактычным абгрунтаваньнем расейскіх мераў «адплаты» за падзеі ў Дагестане і ліквідацыі «пляцдарму безуладзьдзя». У той жа вечар некаранаваны цар Расеі Беразоўскі заявіў, што «Пуцін больш адэкватны прэм'ер сёньня, чым быў бы Лебедзь».

За тыя тры з гакам гады, што прамінулі з часоў хасаўюртаўскіх дамоваў, Расея так і не зразумела, з кім яна мае справу. Расейская дзяржава, гэтак і не стварыўшы перадумоваў для мірнага выхаду Чачэніі са складу Расеі, не наважыўшыся прызнаць рэальнасьць, выбірала момант для інтэрвэнцыі ў гэтую *дзяржаву*. За тры гады Расея ня выканала *ніводнага* з пунктаў тых пагадненьняў. Чачэнія не атрымала абяцаных кампэнсацыяў за сьмерць тысячаў сваіх мірных жыхароў, якія загінулі пад бомбамі, за зьнішчаную эканоміку. Цяпер Масква хоча дзейнічаць па-старому. У яе стары прэзыдэнт, старыя генэралы, старыя інтарэсы і старыя тактыкі. Але Чачэнія ўжо іншая. Гэта ўжо маладая дзяржава, палітыка якой грунтуецца на прынцыповым ідэалягічна-рэлігійным адзінстве, якая больш-менш стабільна функцыянуе і мае ўласнае маладое й загартаванае ў баях войска. Цяпер у іх ёсьць саюзьнікі і ў Дагестане зь ліку вахабітаў, якія імкнуліся быць нэўтральнымі пад час апошняга канфлікту, але былі заатакаваныя расейцамі.

Чачэнцам гэтай вайны ня трэба. Яна патрэбная маскоўскаму кіраўніцтву, каб адцягчы ўвагу ад унутранага бязладзьдзя. Але чачэнцы не здаліся тады, не здадуцца й цяпер. Што дасьць вайна? Будуць гінуць тысячы людзей. Бяз сэнсу выкінуць мільёны даляраў, якіх не хапае Расеі на саму сябе — або на тое, каб купіць Беларусь. Зьядуць Чачэнію? Хутчэй за ўсё, толькі пакусаюць. Пакусае і яна іх.

З учорашнімі тэрарыстамі-незалежнікамі селі за стол перамоваў і ў Паўночнай Ірляндыі, і ў Палестыне, ім далі правесьці рэфэрэндум на Тыморы. Расея ж хоча дзейнічаць сілай, хаця сілы ня мае ніякай.

**Барыс Тумар**



Фота Міхала Баразны.

*Вільня*

## Гэбістам не даюць працаваць

У той час як беларускія чэкісты раз за разам сьвяткуюць «слаўныя традыцыі» савецкага НКВД, у Літве прынялі закон пра абмежаваньне працоўнай дзейнасьці былых работнікаў КГБ у Літве. На падставе гэтага закону ўжо заведзена 270 справаў. Працадаўцам разаслана 82 заключэньні пра тое, што іх падначаленым забаронена працаваць на адказных пасадах на стратэгічных і гаспадарчых аб'ектах, у банках, у сыстэме аховы парадку. На Ігналінскай АЭС ужо звольнілі 9 былых дзяржынцаў, на чыгунцы — 7, у нафтавай кампаніі «Мажэйская нафта» — аднаго, у пракуратуры — 6, у дзяржаўных і камэрцыйных банках — 11. Вось дзе папрыстройваліся ў Літве людзі з «гарачым сэрцам». А ў нас яны сядзяць яшчэ вышэй.

## Пакуты з Шэксьпірам

У старой Вільні на Бэрнардынскай вуліцы хацелі адчыніць новы гатэль з моднай назвай «Shakespeare Hotel». Ажно заўпарцілася дзяржаўная камісія літоўскай мовы пры Сэйме краіны. Гэтай камісіі ў Літве нададзеныя вялікія правы. Вось жа старшыня камісіі Дангуоле Мікулене напісала дырэктару новага гатэлю ліст: «Назвы ўсіх дзейных у Літве прадпрыемстваў, установаў і арганізацыяў утвараюцца з захаваньнем нормаў літоўскае мовы». І ніяк інакш. А ў нас «хто как хаціт, той так і гаварыт». Пажадана, па-расейску, вядома.

## Помнік Эміліі Плятэр

На галоўным пляцы Капцёва — мястэчка ля Друскенік — адчынілі помнік славутай змагарцы паўстаньня 1831 году, нашай зямлячцы, палкоўніку Эміліі Плятэр (1806—1831). Гэтая дзяўчына вядомая ў Беларусі як зьбіральніца народных песень і як гераіня антырасейскага паўстаньня. Калі яе моцна паранілі ў бітве пад Шчорсамі, дык сябры вырашылі перавезьці Эмілію далей ад акупантаў, у Варшаву, але не давезьлі. Памерла яна ад ран акурат у гэтым Капцёве. Тут сама была і пахаваная. Новы помнік, на адкрыцьцё якога прыйшло больш за тысячу чалавек, адліты з бэтону і пакрыты мармуровым пылам. Маладая жанчына стаіць у поўны рост з шабляй у руцэ і ў строі палкоўніка. У цокаль умураваная табліца зь вершам Адама Міцкевіча:

*«Там дзяўчына, ліцьвінка была*
*там,*
*Камандзерка Эмілія Плятэр!»*

**Ліцьвін**

аб усім патроху

## Хто больш каталік?



*Катэдра ў Хашыміне*

Днямі ў найбуйнейшым горадзе поўдня Віетнаму, Хашыміне, ля катэдральнага сабору Дзевы Марыі на сьвятую імшу сабраліся 200 000 тутэйшых рымскіх каталікоў. Імша была прытарнаваная да дзьвюхсотае гадавіны зьяўленьня Сьвятой Марыі ў мястэчку Ла Ванг, што пасярэдзіне краіны.

Гэтая ўрачыстасьць сабрала найбольшую колькасьць людзей за ўсю гісторыю камуністычнага Віетнаму. Яна прыцягнула незвычайную ўвагу, бо й да сёньня ў гэтым краі пануюць камуністы, якія да апошняга часу ў розны спосаб імкнуліся зашкодзіць касьцёлу. Напрыклад, камуністычны рэжым не дазваляе прыезду Папы ды й наагул касьцёльных гіерархаў зь іншых краінаў.

Між тым у Віетнаме больш як мільён каталікоў ды іхная колькасьць штогод большае. Гэта азначае, што гэтая дзяржава на трэцім месцы ў Азіі (пасьля Філіпінаў і Кітаю) па колькасьці вернікаў рыма-каталіцкае канфэсіі. Калі гэтак пойдзе і надалей, то каталікоў у тых краях будзе больш, чым у нас.

Перад людзьмі выступіў біскуп Хашымінскі Пхам Дын Ха, які абышоў увагаю палітыку, а гаварыў пра ўратаваньне душаў.

## Новы Хрыстос

Чаго толькі з Хрыстом не выраблялі... Амэрыканскі каталіцкі часопіс «National Catholic Reporter» абвесьціў сусьветнае спаборніцтва на стварэньне новага вобразу Ісуса Хрыста, зь якім ён мусіць увайсьці ў сваё наступнае, трэцяе тысячагодзьдзе. «Галоўнае, каб новае аблічча не паходзіла на традыцыйныя, бо Хрыстос жа быў самым папулярным героем карцінаў усіх папярэдніх часоў», — кажа Майкл Фарэл, дырэктар часопіса. Той, хто возьмецца паўдзельнічаць, можа спадзявацца на прыз у 2 000 даляраў, публікацыю малюнку ў калядным нумары часопіса і... сусьветную славу. Памалюем?

## Вялікі сьметнік

Адзін бібліяфіл, калекцыянэр старасьвецкіх кніжок з галяндзкага мястэчка Дэвэнтар, зайшоў на тутэйшую барахолку, дзе спрэс таўкуцца бамжы. Адзін зь іх прапанаваў яму набыць тых старых кніг цэлую скрыню — скрыню знайшлі на вялікім сьметніку ля таго мястэчка — за 50 гульдэнаў. Калекцыянэр згадзіўся, а як прыйшоў дахаты, папіў піва й сеў перабіраць знаходкі. На ягонае захапленьне сярод старых аркушоў ён знайшоў дзьве малавядомыя рыціны Рэмбранта. На адной зь іх партрэт маці мастака 1631 году, а на другой — *«Добры самарыцянін»*, 1633 году. Экспэрты ўжо выдалі сэртыфікат, што гэтыя творы сапраўдныя й каштуюць блізу 33 000 гульдэнаў. Чаго толькі ў той Эўропе ня знойдзеш...



*Знойдзеная гравюра*

**Антон Сіюль**

*У мінулым нумары «НН» мы перадрукавалі падобнае апытаньне з варшаўскай «Rzeczypospolitej». Там пра гэта самае выказваліся нашыя суайчыньнікі А.Мальдзіс, С.Шушкевіч, З.Пазьняк ды іншыя. Шчыра выказваліся і цікава. Тым ня менш, мы б не былі зусім аб'ектыўнымі ў такой далікатнай справе, калі б абмежаваліся матэрыялам у польскай газэце, а не правялі падобнае апытаньне самі. Ды і ўрачыстасьці 60-х угодкаў узьяднаньня Заходняй Беларусі з БССР працягваюцца. Тэма, значыцца, актуальная. Вось Анатоль Прасаловіч і ўзяў дыктафон, і падаўся ў «лябараторыі думкі» — у студэнцкія менскія асяродкі, дзе кожны гаварыў за сябе.*

# ЯК ВЫ СТАВІЦЕСЯ ДА ПАЛЯКАЎ?

*Апытаньне менскіх студэнтаў*

## Усходнія палякі горшыя за заходніх

**Натальля Воран (родам зь Берасьця):** «Палякі ёсьць розныя. Розьніца паміж палякамі заходняй і ўсходняй Польшчы адчуваецца моцна. Я больш знаёмая з усходнімі, і яны мне, шчыра кажучы, зусім не падабаюцца. Яны як беларусы, толькі ў горшым варыянце: больш прыземленыя, прасьцейшыя, грубейшыя. Нягледзячы на суседзтва, у іх няма душэўнасьці, вабы нейкай асаблівай, якая ёсьць у беларусаў. Большасьць з палякаў — самазакаханыя мужланы, якія пыхліва ставяцца да ўсяго, што ляжыць ад іх на ўсход. Непрыемна, карацей. Пустыя яны нейкія, «завёрнутыя» на грошах. Ёсьць і людзі адукаваныя, але іх мала, у большасьці павага да чалавека залежыць толькі ад колькасьці грошай, якія ён мае. Не люблю іх, нягледзячы на долю пальшчызны ў маёй крыві. А яшчэ ўсе палякі насатыя і пузатыя».

## Абывацелі

**Аляксей І-віч (зь Менску):** «Я перакананы анархіст, а па мэнталітэце найбольшыя анархісты — расейцы. А іхным «абсалютным антонімам» зьяўляюцца эўрапейцы са сваімі буржуазнымі абывательскімі каштоўнасьцямі. Беларусь бліжэйшая да Эўропы, чым Расея, таму расейцы кажуць, што ў нас шмат жыдоў. Я лічу, што Польшча — яшчэ больш жыдоўскі варыянт Беларусі, больш буржуазны, капіталістычны і абывательскі. Яны не нагэтулькі багатыя, як немцы, далёка не настолькі бедныя, як беларусы, але ўся гэтая абывательская тупасьць, прымхлівасьць, вузкасьць успрыняцьця, мысьленьня характэрная для іх».

## Хітрыя, але свабодныя

**Уладзімер Катлоў (з Салігорску):** «Палякі — гэта сумесь габрэяў і немцаў, прычым вельмі сапсаваных немцаў. Мне не падабаецца польская мова, бо яны занадта шыпяць. Да таго ж, палякі вельмі хітрыя, я такога не люблю. А да Польшчы як краіны я стаўлюся нармальна, быў там, і мне падабаецца. Адзіная іх праблема — гэта панаваньне Нямеччыны, бо Польшча цяпер — гэта нямецкі прыдатак. Я б не адмовіўся пажыць у Польшчы, бо яны маюць больш магчымасьцяў для самавызначэньня, самарэалізацыі. Там болей свабоды. Мазгі беларусаў функцыянуюць павольней, чым польскія, мяркуючы нават з разьмовы, яе хуткасьці. А яшчэ беларусаў не цікавіць свая нацыянальная годнасьць, а палякі ганарацца радзімай. Тыя самыя беларускія палякі не забываюцца на сваё паходжаньне, гуртуюцца ў касьцёлах, школках, суполках. Яшчэ фільмы ў палякаў дужа добрыя, можна ўзгадаць Анджэя Вайду ці Кшыштафа Кесьлеўскага».

## Польскі гонар здаровы

**Шура Катляроў (з-пад Мядзелу):** «Што можа сказаць пра палякаў чалавек, які і сам напалову паляк? Вельмі паважаю гэты народ, нягледзячы на супярэчлівыя моманты ў нашых узаемадачыненьнях. Яны мне больш сымпатычныя, чым расейцы або ўкраінцы. Некаторыя лічаць палякаў задужа ганарлівымі, але, як па-мойму, гэта гонар за саміх сябе, за сваю гісторыю, культуру, гонар здаровы. Цяпер палякі добра жывуць і добра зарабляюць. Яны хутка злучацца з Эўропай, і чхаць ім хацелася на розныя віртуальныя славянскія «узы братэрства». Нэгатыўнае стаўленьне да так званых «пшэкаў» — з-за зайздрасьці саўковай. І з-за саўковага мэнталітэту. Калі нават найвядомейшы савецкі клясык казаў пра «их противный шипячий язык»... Ale jeszcze Polska nie zginela!»

## Беларускія — добрыя, польскія — не

**Андрэй Пудзін (з Горадні):** «Палякі бываюць розныя. Я сам з Горадні, і для мяне беларускія палякі — такія ж людзі, як і ўсе, што жывуць у нашай краіне: цёплыя, шчырыя. Іншая справа — палякі польскія. У адным францускім фільме дзядзька пытаецца ў свайго сябра: «Чаму ты да N. ставісься, як да сабакі?» – «Дык ён жа літовец». – «Дык каб ён нават палякам быў...» Больш фанабэрлівай нацыі, большых круцялёў цяжка знайсьці. Для іх галоўнае — грошы, там паўсюль пануе мэркантыльнасьць. Зараз яны ўвайшлі ў NATO, хочуць пралезьці ў Эўрасаюз. А хто губляе ад гэтага, ад закрыцьця мяжы? Ня толькі мы, але й найбяднейшыя польскія ўсходнія ваяводзтвы, якія, лічы, за кошт белару-







# МЯДЗЕЛЬСКАЯ КАЛЬВАРЫЯ

Штогод 14 верасьня, на дзень Узвышэньня Пачэснага Крыжа ў Мядзел зьбіраецца народ — людзі ідуць на тутэйшую Кальварыю. Наўзбоч ад дарогі Мядзел—Нарач на высокіх пагорках стаяць простыя драўляныя крыжы. Чатырнаццаць крыжоў — столькі этапаў ішоў Хрыстос на Галгофу. Некалі, яшчэ за польскім часам, тут стаялі дванаццаць старых капліцаў. Аднак у часы савецкае акупацыі гэтую сьвятыню зьнішчылі. Засталіся адно аскабалкі тых разьбітых бальшавікамі капліцаў. Сёньня на месцы капліцаў ужо паўсталі крыжы.

С.Х.

*Здымкі Анатоля Клешчука.*






*Паміж Докшыцамі і Глыбокім*

# ПА ПОЛЬСКІМ ЧАСЕ

Дзяніс НОСАЎ

Кожнае падарожжа ў заходнюю Беларусь для чалавека з усходу краіны адкрывае цуды. Асаблівасьці ляндшафту, каталіцкасьць, сьляды жыцьця «за Польшчай».

Гасьцяваў я на хутары пад Мёрамі. Раённая кніга «Памяць» паведамляе пра яго — 2 двары, 3 чалавекі. Насамрэч даўно ўжо 1 двор, 2 чалавекі. Суседні дом хоць і захаваў сьляды яшчэ нядаўняга — гадоў 20 таму — дабрабыту, але пусты, патроху разваліваецца. Ад трэцяга, троху далей, засталася толькі купа гліны на месцы грубкі. Побач на рачулцы Вяце — рэшткі млына. Не такога й старога, ужо нашага стагодзьдзя, але з 50-х нікому не патрэбнага. «Пры Польшчы» тут вiравала жыцьцё, а зараз толькі імклівыя хвалі Вяты пад старым мураваным мостам, што вядзе ад млына на другі бераг, да двух іншых яшчэ жылых дамоў. Дакладней, вёў... Бо пад час веснавой паводкі і ён абваліўся. Аднаўляць няма каму. А на берагах, месцамі даволі стромкіх — зялёныя джунглі...

Гаспадар хутару, дзед Станіслаў, нарадзіўся, калі пачалася першая сусьветная, бабуля Кацярына на дзесяць гадоў маладзейшая. За палякамі дзед працаваў у найме, пасьпеў адслужыць у войску; вайну правёў у нямецкіх канцлягерах. Цікавыя ягоныя расповеды пра часы



*Рэшткі млына на рацэ Вяце*

саў і існуюць. Знаходзячыся ў NATO, яны аўтаматычна выступаюць супраць сэрбаў, падзяляючы ўсю славянскую супольнасьць на два лягеры. Шкада, што сярод беларускіх палякаў ёсьць тыя, хто марыць зваліць жыць у Польшчу, хоць, папраўдзе, большасьці на сваю польскасьць наплявань, ім і ў Беларусі няблага». ■

## Бабуля прышчапіла недавер

**Віталь Шуневіч (з Салігорску):** «Наконт палякаў у мяне два гледжаньні. Маяваўкавыская бабуля вельмі дрэнна ставіцца да палякаў, таму ў дзяцінстве я меў не найлепшае ўяўленьне пра іх. Справа ў тым, што палякі забілі ў рэвалюцыю майго прадзеда, адсюль і стаўленьне. Бабуля казала, што палякі пагарджаюць беларусамі, я й сам гэта ведаю. Але, з другога боку, палякі бліжэйшыя нам па духу, па гісторыі, чым расейцы. Добра я ведаю толькі палякаў беларускіх: неблагія людзі і вельмі рэлігіі трымаюцца. Нават моладзь штонядзелю ходзіць у касьцёл да споведзі. Яшчэ для маёй бабулі БНФ — гэта ўсё палякі з галоўным палякам Пазьняком на чале. А ўваход Польшчы ў NATO і інтэграцыю ў заходні сьвет я разумею. Гэта лепей, чым ваенны саюз з Расеяй ды Туркмэністанам». ■

«узьяднаньня». «За Польшчай цяжка жылося. У аднаго робіш, у другога — многа работы, дужа цяжка. Але й заробак добры. А за Саветамі лепей стала. Камісар, прадсядацель гэны, у калхоз усіх зганяў. А сам усё на дзевак паляваў, бандыт. Бывала, пры ўсіх рэвальвэрам трасе да крычыць ёй: «Застралю, як са мной ня пойдзеш! Застралю!..» І гэтак далей, а на фінал: «Так што за Саветамі лепей стала, дужа лепей...»

Сястра дзедава па вайне зь сям'ёй зьехала ў Польшчу, а дзед вярнуўся ў Беларусь, ажаніўся. Але разам з бабкай лічаць сябе хутчэй палякамі, хаця пры новых людзях гэтага не афішуюць. Але беларусамі сябе ўпарта не называюць, насуперак нашчадкам нават. Пішуць папольску, прынамсі «польскімі літарамі». Гутарка ж — трасянка. Пра Польшчу дый палякаў гаворыць як пра «іх».

А што самае цікавае, я спачатку ня мог зразумець, чаго яны ў часе, бывае, блытаюцца, а якой аўтобус прыходзіць, напрыклад? Аказваецца: «То павашаму, мусіць, у дзевяць — а па-нашаму у восем...» Яны жывуць па польскім часе!

Гэта можна было зразумець раней, як унутраны супраціў пераходу «пад Маскву». Але й цяпер гэтаму ня могуць перашкодзіць ані складанасьці з напраўкай гадзіньніка, ані блытаніна (і ў дачыненьнях з роднымі), ані тое, што Беларусь навокал іх даўно ўжо жыве не «па Маскве», а па сваім часе, ні тое, што ўласны сын працаваў і за «Саветамі» ўва ўладзе й зараз адзін зь першых людзей у раёне...

Дзед з бабкай пры Польшчы жылі каля 20-ці гадоў, а з таго часу прайшло ўжо 60... Але нішто ня можа — і ня толькі ў іх — вытравіць звычкі жыць па польскім часе. Так на ўсходзе ў многіх пакаленьняў выпрацавалася звычка жыць «па Маскве», «у Расеі». Але тое паціху праходзіць...

*Здымкі аўтара.* ■



Фота Міхала Баразны

# ЛІСТ 38-МІ

На мінулым тыдні 38 дзеячоў беларускай культуры зьвярнуліся з Адкрытым лістом да прэм'ер-міністра Лінга, каб улады спынілі руйнаваньне помнікаў архітэктуры ў старым Менску.

Сярод падпісантаў — вядомыя на ўсю краіну архітэктары, мастакі, пісьменьнікі, кампазытары, артысты. Ігар Алоўнікаў, Анатоль Багатыроў, Зінаіда Бандарэнка, Уладзімер Басалыга, Янка Брыль, Генадзь Буралкін, Генадзь Бураўкін, Гаўрыла Вашчанка, Ігар Воўчак, Тамара Габрусь, Віталь Герасімаў, Сяргей Грахоўскі, Ігар Дабралюбаў, Аляксей Дудараў, Валеры Жук, Уладзімер Зінкевіч, Аляксандра Клімава, Яўген Кулік, Леанід Левін, Максім Лужанін, Пётар Лысенка, Адам Мальдзіс, Валер Раеўскі, Віктар Роўда, Іван Рэй, Лія Салавей, Пётар Сьвентахоўскі, Стэфанія Станюта, Георгі Сысоеў, Уладзімер Тоўсьцік, Міхаіл Фінбэрг, Анатоль Фядосік, Вячаслаў Чарнатаў, Васіль Шаранговіч, Віктар Шматаў, Георгі Штыхаў, Леанід Шчамялёў, Расьціслаў Янкоўскі.

Разам выступілі і прыхільнікі апазыцыі, і спрыяльнікі першага прэзыдэнта. Гэта значыць, інтэлігенцыю аб'ядНала непалітычная праблема — ахова помнікаў.

Апошні раз падобныя адкрытыя лісты пісаліся ў канцы 80-х. Тады менавіта ў барацьбе за архітэктурную спадчыну беларускія культурнікі выступалі агульным фронтам, менавіта на гэтай глебе паўстаў маладзёвы адраджэнцкі рух. Шматлікія талокі па ўсёй краіне і пад рознымі назвамі дапамагалі ў раскопках і на рэстаўрацыі, вывучалі гісторыю і праводзілі пратэставыя акцыі на месцах руйнаваньня. Клопат пра гарадзкое асяродзьдзе, пра помнікі дойлідзтва напачатку яднаў лепей, чым родная мова або ідэя незалежнасьці краіны. Помнікі прыцягвалі найбольшую колькасьць грамадзян. Урэшце на гэтай глебе пачалося яднаньне тых маладзёвых талокаў у вальныя соймы і канфэдэрацыі, а ўжо зь іх нарадзіўся і зусім палітычны Беларускі Народны Фронт.

Пасьля, калі энэргія абароны спадчыны прывяла да палітычнае барацьбы, інтэлігенцыя стала пакідаць шэрагі руху і вярталася да сваіх мальбэртаў і партытураў. Не пісаліся болей і адкрытыя лісты. На дзесяць гадоў праблема амаль цалкам зьнікла з шырокага грамадзкага поля зроку. Вынішчэньне архітэктурных помнікаў тым часам пачалося з патройнай сілай. Калі ў 87-м годзе інтэлігенцыя публічна патрабавала ад уладаў напоўніць рэальным зьместам артыкул Крымінальнага кодэксу, які прадугледжваў адказнасьць за руйнаваньне помнікаў, дык цяпер такія патрабаваньні выглядалі дзівацтвам. Адначасова хто што хацеў, той тое й рабіў з гістарычнымі будынкамі, цэрквамі і замкамі. Асаблівага маштабу ўся гэтая сваволаная прафанацыя дасягнула ў старым Менску. Але дзесяць гадоў гэта выклікала толькі ціхае горкае абурэньне ў гутарках абазнаных людзей. Ніхто, па вялікім рахунку, не пратэставаў і ніхто не прыходзіў натоўпамі на добраахвотную дапамогу рэстаўратарам.

І вось сёлета першага верасьня, зусім як у колішнія часы, пад каўшы экскаватараў выйшлі людзі новага пакаленьня. Іхны пікет, які гарадзкія ўлады адмовіліся санкцыяваць, прывёў да перашкоды працы вандалаў. А праз два тыдні ў друку, падкрэсьлю — і афіцыйным, і апазыцыйным, — зьявіўся той самы Адкрыты ліст 38-мі. Словам, разбурэньне, якое на працягу апошніх дзесяці гадоў публічна ніби не заўважалася, раптам выклікала рашучую рэакцыю.

Што ж адбылося? Прыйшло новае пакаленьне? Так. Апроч гэтага, інтэлігенцыя нарэшце выйшла са сьпячкі, ці, дакладней, з шоку і здранцьвеньня, выкліканых радыкальнымі пераменамі ў краіне. У выніку зьявілася страчаная было энэргія адказнасьці за культурную спадчыну. Драма ў тым, што гэтыя дзесяць гадоў для ўсяго і ўся ў нас прамінулі нібы ў летаргічным сьне. Мы раптам прачнуліся ў тым самым 87-м годзе і зразумелі, што само, бяз нашага ўдзелу, за гэты час нічога не зрабілася. І наш працяглы сон пра новую Беларусь або пра новае стаўленьне ўладаў да культурнае спадчыны — гэта толькі сон. Гісторыя вярнула нас на тое месца, зь якога некалі і пачынаўся высакародны чын нацыянальнае інтэлігенцыі.

Між іншым, падобная выснова на мінулым тыдні прагучала і з вуснаў зусім ужо далёкага ад нашых унутраных праблем наз іральніка — сьпікера NATO Джэмі Шы. У сваім інтэрвію для прэсы ён сказаў, што знаходзіць эпоху Лукашэнкі ў нашай гісторыі страчаным часам для Беларусі.

Калі ж разглядаць гэтую эпоху не як нейкі вонкавы фактар, а як стан сьвядомасьці, як пэўную духоўную паўзу, дык апошнія падзеі вакол руйнаваньня старога Менску сьведчаць пра завяршэньне і гэтай эпохі, і гэтага стану. Нічога падобнага ў мінулыя гады не было.

Высновы, якія робіцца з аналізу стану менскіх старажытнасьцяў, наўпрост сягаюць у адміністрацыйную і далей — у палітычную сфэру. Спрацоўвае тая схема, якая дзесяць гадоў таму паступова ператварыла змагароў за архітэктурную спадчыну ў змагароў за незалежнасьць краіны і дэмакратыю. Аднак нельга думаць, што і наступныя дзесяць гадоў у беларускай гісторыі будуць бясплённымі. Рэч у тым, што ў папярэднім пэрыядзе быў надзвычай магутны эпізод, які заварважыў, прыгаломшыў і засыпіў пільнасьць. Гэта сувэрэнітэт, абвешчаны ў 91-м годзе. Пры ўсёй станоўчасьці і неабходнасьці гэтай падзеі трэба прызнаць, што адказная нацыянальная інтэлігенцыя яшчэ не была да яго гатовая. Мы прасілі захаваць помнікі і ў масе сваёй толькі пачыналі нясьмела нашэптваць гэтае слова: «незалежнасьць», а нам адразу «далі ўсё». Вось гэты эфэкт і зьбіў з панталыку. Але сёньня мы ўжо маем досьвед і паступова пачынаем выходзіць зь летаргічнага сну, пра што сьведчаць акцыі абароны помнікаў у Верхнім горадзе ў Менску і Адкрыты ліст аб'яднанае адной трывогай інтэлігенцыі з рознымі палітычнымі прыхільнасьцямі.

# РЭСТАЎРАТАРЫ-ГЕРАСТРАТЫ

Адкрыты ліст беларускіх культурнікаў — гэта працяг старое традыцыі. Яшчэ Сыракомля ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя пісаў, што ў Менску нібы наўмысна ўсё робіцца, каб зьнішчыць памяткі мінуўшчыны. Сапраўды, Менск, які старэйшы за Маскву й Варшаву, зьмяняўся несупынна: старыя будынкі праз нейкі фатальны зьбег абставінаў часьцяком проста прападалі. Той самы Сыракомля апісаў «прыгожы, яшчэ не пабелены касьцёл францішканцаў», а ўжо праз паўстагодзьдзя ніхто ня памятаў, дзе ён стаяў. Альбо старажытны будынак Трыбуналу, які Шпілеўскі назваў «судзіліщам на замчышчы», які ў 20-я гады пасьпеў намаляваць Язэп Драздовіч. Ніхто дакладна ня скажа, калі ён прапаў.

Аднак заставаўся Верхні горад. Як сымбаль адухоўленасьці й эстэтычные насалоды. Пра тое пісаў у сваёй «Геаграфіі Беларусі» Аркадзь Смоліч.

«Над местам пануе ўзгорак Высокага места, на якім падымаюцца ў вышыню вежы цэркваў і касьцёлаў. Калі падысьці бліжэй да цэнтру і глядзець на Высокае места з-за Сьвіслачы, дык яно выдае адным вялікім каменным гмахам, што падымаецца проста ад берагоў Сьвіслачы на высачыню некалькіх дзясяткаў сажняў. Прыятна песьціць вочы пераханая з гэтага боку сыляды старое, прадвечнае архітэктуры, і тут толькі хіба і можна добра ўсьведаміць сабе, што цяперашні Менск мае тысячагадовую багатую гісторыю».

Гэтак прыблізна было і яшчэ пятнаццаць гадоў таму, пакуль за гэты лапік старога гораду не ўзяліся рэстаўратары. Ніхто ня мог сабе ўявіць, што людзі, якіх гэтак чакалі сівыя муры, зьнішчаць больш, чым папярэднія войны ды бальшавіцкая ўлада.

Праекты былі складзеныя ў 1983–85 гадах і прадугледжвалі паэтапную, на працягу дзесяці гадоў, рэстаўрацыю Верхняга гораду. Але пасьля перастройкі ды распаду СССР дзяржава ўжо не магла цягнуць гэты прыгожы праект і аддала яго ў рукі аднае толькі арганізацыі, закрытага акцыянэрнага таварыства «Стары Менск». Цяпер «рэстаўратары» самі шукалі сабе заказчыкаў з мэтаю максымальнае прыбытку. Самі па сабе адпалі праекты стварэньня ў Верхнім горадзе музэяў ды тэатраў. Каб рабіць максымальна хутка ды танна, старыя дамы зьнішчалі дазваньня, вымалі старажытныя падмуркі, адкрытым спосабам падводзілі камунікацыі, зьнішчалі архэалягічныя пласты. Затым з бэтону й новай цэглы будавалі муляж, пры тым ніхто ня дбае пра сапраўднасьць інтэр'ераў. Запанаваў рубель.

Калі, напрыклад, разьбіралі адзін з помнікаў архітэктуры, дом XVIII стагодзьдзя на вуліцы Герцэна 2, выявілі, што на другім паверсе была расьпісаная фрэскамі заля, а палова дому складзеная ў тэхніцы фахверку (прускага муру). Але гэта нікога не спыніла. Дом быў зруйнаваны, сталярку, што прастаяла больш за два з паловай стагодзьдзі, пусьцілі ў сьмецьце. На гэтым месцы цяпер стаіць копія таго дому. Бяз фрэсак, натуральна.

Аўтары ліста патрабуюць спыніць далейшы зьдзек псэўдарэстаўратараў са старасьвеччыны. Напрыклад, пачаць аднаўленьне малога гасьцінага двара на плошчы Свабоды, дом 19/21, што каля праваслаўнага сабору. Гісторыя ратаваньня гэтага будынку, унесенага, дарэчы, ва ўсе энцыклапэдыі й даведнікі, паказальная. Спачатку яго хацелі зьнесьці мэтрабудаўцы, але па тэлебачаньні выступіў Зянон Пазьняк і давёў, што гэты дом — неад'емная частка ансамблю, і ягоны знос, недапушчальны сам па сабе, утворыць візуальную дзюрку — ад Кансэрваторыі ў нікуды. Яго тады паслухаліся й пастанавілі за кошт «Мэтрабуду» гэты дом зьберагчы. Была ўпершыню ў Беларусі ўжытая тэхналёгія «сьцяны ў грунце», калі па чарзе падкапаныя падмуркі залівалі бэтонам, што ўтвараў суцэльную падушку. Дом пабялілі і пакінулі рэстаўратарам. Прыйшлі рэстаўратары і... зьнесьлі гэты дом амаль цалкам, каб скласьці яго з новай цэглы.

У пераліку помнікаў, згаданых у Лісьце, ёсьць і падземная частка гандлёвых радоў, якія колісь апярэзвалі бэрнардынскі касьцёл Сьвятога Язэпа й зваліся ў народзе «Віленчукамі». Палова зь іх ацалела і была нават адрэстаўраваная ў 1983 годзе. А палова была яшчэ па вайне разабраная, хоць засталіся там сутарэньні й падмуркі. Дык вось жа цяпер па іх зьбіраюцца пракладаць новыя камунікацыі... І гэтак далей. Дачытаўшы гэты мартыралёг помнікаў, якія зьнішчаныя за апошні час альбо рыхтуюцца да зьнішчэньня, я адцеміў, што аўтары Адкрытага ліста не пасьпелі згадаць апошнія дамы па вуліцы Замкавай, якія таксама ўжо аруйнаваныя. Інтэлігенцыя заклікае ратаваць помнікі наагул, цэлымі менскімі прадмесьцямі. Прыцягнуць да адказнасьці чынавенства. А таксама зьмяніць статутную форму ўласнасьці ў таварыстве «Стары Менск».

На маю думку, гэта нічога ня зьменіць, пакуль у краіне ня будзе аднаўленая наноў колішняя сыстэма рэстаўрацыі, з навукова-дасьледчымі інстытутамі й дзяржаўнымі майстэрнямі. Пакуль ня будзе кадыфікаванае нацыянальнае заканадаўства ў галіне аховы помнікаў. Пакуль ня будзе праведзеная наноў навуковая інвэнтарызацыя таго, што яшчэ ацалела. Ня толькі будынкаў, але і іх дэталяў і інтэр'ераў. І пакуль ня будзе складзены нацыянальны плян адраджэньня спадчыны, з асобнымі праектамі ўзнаўленьня менскіх прадмесьцяў.

**Сяргей Харэўскі**



Фота Зьмітра Бартосіка.

Двор Антона Касьміча

# ПАД'ЕЗД СТАРЫХ КАВАЛЕРАЎ

***Веры Харужай, 48 — 26***

Зьміцер БАРТОСІК



*У. Караткевіч. Мастак Раіса Сіплевіч*

***У Маскве непадалёк ад Беларускага вакзалу ёсьць вуліца Вялікая Садовая. А ў доме 10 на гэтай вуліцы ёсьць кватэра №50, «дзе жыў Воланд». У Лёндане ёсьць вуліца Бэйкер-стрыт, «дзе кватараваў Шэрлак Холмс». А ў Кіеве ёсьць Андрэеўскі ўзвоз, «дзе прайшлі апошнія дні сям'і Турбіных». Турысты перш-наперш сьпяшаюцца наведаць менавіта гэтыя адрасы, дзе жылі тыя прыдуманыя героі. Але адкуль такое імкненьне ў мясьціны прыдуманых падзеяў? Можа быць, гэта дзіцячая прага насамрэч патрапіць у прачытаную некалі казку? Як бы там ні было, літаратурны міт заўжды цікавейшы за рэальнасьць. Таму ў нашых падарожных нататніках дамы-музэі вялікіх, але рэальных людзей заўжды будуць стаяць пасьля тых мітычных «нячыстых кватэр». Ёсьць такія адрасы і ў Менску.***

У 79-м годзе часопіс «Маладосць» пачынае друкаваць псыхалягічна-дэтэктыўны раман Уладзімера Караткевіча «Чорны замак Альшанскі». За некалькі гадоў раман становіцца бэстсэлерам, вытрымлівае некалькі выданьняў у арыгінале і ў перакладзе на расейскую мову. У інтэлігенцкіх дамах кніга Караткевіча займае пачэснае месца побач з тамамі Булгакава й Акуджавы. У 84-м раман экранізуецца, што спрыяе яшчэ большаму камэрцыйнаму посьпеху. Агульны наклад «Чорнага замку» набліжаецца да мільёну асобнікаў — выпадак у беларускай літаратуры беспрэцэдэнтны. І хоць большая частка накладу перакладная, мне прыгадваецца аплёмбная фраза тых часоў: «Короткевича нужно читать только в оригинале».

«Чорны замак» я перачытваў, нібы правяраючы, наколькі стары раман можа захапіць мяне сёньняшняга. І хоць пэўныя патасныя фрагмэнты твору цяпер нельга чытаць бяз скідкі на час стварэньня, «Замак» і сёньня захоплівае. І бліскучай інтрыгаю, і гатычным антуражам, і спалучэньнем розных эпохаў. Што цікава — спалучэньнем ня «змрочнага сярэднявечча» са «сьветлым савецкім» сёньня, а таемнае мінуўшчыны зь ня менш таямнічаю цяпершчынай. Прычым Караткевічаў «наш час» зусім не ўспрымаецца канкрэтнымі семідзясятымі гадамі нашага стагодзьдзя. Героі ягонага часу маюць несавецкія імёны: Мар'ян Пташынскі, Герард Пахольчык, Адам Хілінскі. Ці, напрыклад, Вітаўт-Ксавэры-Інэзілья-Хасэ-Марыя Шапо-Калавур-Лыганоўскі. І зьвяртаюцца яны адзін да аднаго ня йнакш, як «пане мой вялебны». Ніякіх «дарагіх таварышаў». Быццам аўтар прадчуваў, што ў хуткім часе ім месца ня знойдзецца.

Калі я чытаў раман, мне нясьцерпна хацелася наведаць тое месца, дзе жыў галоўны герой Антон Касьміч і дзе адбывалася частка тых неверагодных падзеяў. Маю на ўвазе «пад'езд кавалераў». Памятаеце?

**«У маім доме пяць паверхаў і чатыры пад'езды. Мой пад'езд трэці. Завуць яго «пад'ездам старых кавалераў» незадарма. Па нявыказанай іроніі лёсу ўсе мужыкі ў ім (пра незамужніх дзяўчат не кажу) або нежанатыя, або ўдаўцы, або... Але гэта сумная гісторыя...»**

Я быў далёкі ад думкі атаесамляць Альшанскі замак з Гальшанамі. Але ў існаваньні менскага дому аўтар не пакідаў шанцаў на сумневы. Месца дзеяньня было апісана як з тапаграфічнай, так і зь лірычнай дакладнасьцю.

**«Раніцай мяне разбудзяць залівісты крык пеўня, а пасьля адчайна-душнае, надрывістае кувіканьне парасяці: відаць, несьлі ў мяху. Як на вёсцы. І кожную нядзелю мне вось так прыемна. І гэта адна з прычын, чаму я люблю сваю хату. Прыемна гэта казаць: мая хата, мой пад'езд, мой двор... Немагчыма ўседзець на месцы кожную нядзелю, калі цераз тракт ад майго дому адкрываецца рынак худобы: коні, каровы, сьвіньні, залатыя рыбкі, авечкі, галубы, трусы, лясное зьвяр'ё, птушкі, сабакі і ўсё жывое. Да таго, як агарадзілі квартал — дзядзькі з вазамі стаялі сабе на тратуарах, а здаравушчыя мацёры, адваліўшы саскі, ляжалі, мілыя, на газоне. Харошы куток! Шкада, што рынак куды-небудзь перанясуць. І, галоўнае, у двух кроках ад «вёскі», ад таго куточка, занесенага на брук, вулачка, далей бульвар і шумны вялікі горад».**

Нядаўна, чытаючы Караткевічавы дзёньнікі, я зрабіў для сябе «адкрыцьцё»: нумары кватэраў Антона Касьміча і Ўладзімера Караткевіча супадаюць. Праз пару гадзінаў пасьля гэтага я стаяў каля дому № 48 на вуліцы Веры Харужай у Менску.

Пасярод двара я з асалодаю адкрывальніка аглядаў гэтую жывую і даўно знаёмую мне з кнігі дэкарацыю.

**«Звычайны новы двор з маладымі дрэўцамі, лавачкамі, газонамі, выбітымі на бубен футбольным мячом. Толькі што ў двары засталося ад зьнесеных хат ускраіны — двухпавярховы дамок, дуб, зарасьці ясеню, пара груш ды некалькі асуджаных яблынь і вішань».**

Зрэшты, двор — адзінае, што супадала з кнігаю. Асабліва драматызму ў звычайны краявід дадаваў той двухпавярховы дамок, афарбаваны чырваньню. Пад'езд жа «кавалераў», у якім калісьці жыў пісьменьнік, быў ня трэці, а другі. Таму што на пляцоўках «хрушчоўскіх» дамоў не магло быць па дзьве кватэры, як у рамане. Аўтар і тут «ашляхеціў» савецкае жытло. З-за чаго блыталася ўся выстраеная сыстэма пражываньня герояў. Я стаяў на другім паверсе надзвычай чыстага пад'езду, перад 26-й кватэрай з новымі дзьвярыма і не рашаўся пазваніць. Паўзь мяне прабег нейкі інтэлігентнага выгляду мужчына. «Прабачце», — аклікнуў я яго. — «Пардон, очень спешу». Я пазваніў. Званок не працаваў. Я пагрукатаў. Ніякага адказу. Напэўна, гаспадароў няма дома.

Ну, павінны ж жыхары такога пад'езду нешта асаблівае ведаць ці адчуваць. Я йзноў выйшаў на двор, дзе абмяняўся парай фразаў з прыгожай маладой кабетай, што ўваходзіла ў дом. «Даруйце, — сказаў я, — Вам імя Ўладзімер Караткевіч што-небудзь гаворыць?» — «Короткевич? Писатель, да? Говорят, он живет в доме, где гастроном.» — «Жыве?» — перапытаў я. — «Ну да. Я так слышала.» — «А што Вы скажаце наконт 26-й кватэры?» — «Ой, я сама тут недавно. Но 26-я продавалась уже раз десять. Наверное, и сейчас переходит из рук в руки». Даведаўшыся ад мяне, што ў ёй жыў Караткевіч, кабета, падумаўшы, спытала: «Так что, мы, выходит, живём в легендарном доме?» — «Выходзіць», — адказаў я.



*«Пад'езд кавалераў» — адзіны ў квартале пад'езд, дзе няма ўслончыкаў*

Мае далейшыя блуканьні па пад'езьдзе ўсё больш пераконвалі мяне ў тым, што ня варта блытаць літаратуру з рэальнасьцю. Караткевіча тут, безумоўна, памяталі. Як шумнага п'яніцу. Старая настаўніца з чацьвертага паверху паскардзілася мне на пісьменьніка за тое, што той, п'яны, пераблытаў паверхі і вельмі яе напалохаў сярод ночы, ломячыся ў яе ціхае гняздо. Крыўда бабулі была настолькі натуральнай, быццам інцыдэнт адбыўся ня тры дзясяткі гадоў, а пару дзён таму.

Пабыўшы ў ролі ўчастковага міліцыянта, я падняўся на пяты, цалкам закратаваны паверх. Пажылы інжынэр з-за кратаў паведаміў мне, як ён шкадуе, што ўвесь час адмаўляў Караткевічу скласьці кампанію за пляшкаю гарэлкі. «Я ведь к водке отношусь строго отрицательно, — сказаў ён, — а сейчас было бы что вспомнить. И даже, может быть, рассказать что-нибудь вам».

Вядома, ні старых кавалераў, ні высакародных псыхіятраў, ні адстаўных шпіёнаў у гэтым пад'езьдзе ніколі не пражывала. І што самае для мяне дзіўнае — «Чорнага замку» з апытаных мною жыхароў ніхто не чытаў.

Ну, навошта было рамантызаваць гэтыя няўдзячныя «хрушчобы» — наракаў я на аўтара. Ну, чаму ён не стварыў свайго «пад'езду кавалераў» дзе-небудзь на няіснай сёньня Нямізе?

Я выйшаў на вуліцу ды пайшоў на асфальтавую пустку, на месцы якой некалі шумеў Старажоўскі рынак. Вокны Касьміча па-ранейшаму заставаліся цёмнымі. Закурыўшы, я адкрыў старую кнігу і пры канцы раману натрапіў на адзін цікавы абзац. Якімі ж па-дзіцячы недарэчнымі выглядалі мае нараканьні на няспраўджаны міт!

**«Вось і скончыліся мае пошукі, а ўсё адно застаецца адчуваньне нейкай незавершанасьці, нібы скончыў альфавіт недзе на трох ягоных чвэрцях. І ўспомніўся герой нейкага твора, пакаёвы інтэлігент, які цэлы дзень хадзіў па кватэры і абураўся, што вось недзе кошкі нагадзілі, а ён аніяк ня можа разабрацца, дзе. І толькі вечарам высьніў, што гэта зусім ня кошкі ў кватэры напаскудзілі, а гэта на вуліцы ліпы расьцьвілі».**

«Наш час» гэтага раману, які шмат хто ўжо пасьпеў залічыць у састарэлыя, насамрэч напераздзе. Яшчэ ня раз памяняюцца жыхары ў гэтым доме. Яшчэ ня раз, дзякуючы Караткевічаву міту, нехта іншы па-новаму зірне на такі, здавалася, нецікавы гарадзкі краявід. І яшчэ ня раз, праяжджаючы паўз гэты квартал, я скажу свайму спадарожніку: «А ці ведаеш, пане мой вялебны, што гэта за дом?» ■

Ігар БАБКОЎ

# KINDBERG

***Апавяданьне***



Фота Міхала Баразны.

Ад Курскай касы да Вільні колькі гадзінаў і потым яшчэ крыху да мяжы, дзе заўсёды чакаеш найгоршага, пакуль памежнік не запытаецца, куды яна едзе, глупае пытаньне, апошняя мадэль «Рэно» зь беларускімі нумарамі і эфэктнай брунэткай, энэргічнай і крыху стомленай, вядома, яна вяртаецца дадому, так, надвор'е было фан-тас-тыч-нае, хацелася б пасьпець у Менск да дзявятай, Ганна паварочвае галаву ў звыклым гэсьце, якім яна абрывае недарэчныя размовы і глядзіць у будысцкую пустату наўпрост перад сабой, праз мытны ангар, рэйсавы аўтобус наперадзе, кудысьці далёка, дэманструючы бізантыйскі профіль, нос зь лёгкай гарбінкай, які так падабаецца Артуру, яе вусны яшчэ нешта прамаўляюць, але, вядома, ужо не для ашмянскіх памежнікаў, якія мусяць разумець, што размова скончана, што для такіх, як Ганна, яны заўсёды будуць надакучлівым і непазьбежным дадаткам да ружовага штампіка «вяртаньне на радзіму». Рука аўтаматычна цягнецца да *Cosmopolitan*, яшчэ сёньня на сьвітанку яна блукала па пясчаных плёсах, самота, амаль два тыдні поўнага спакою, але гэта ўжо недзе далёка ў мінулым, Ганна запальвае цыгарэту й прымружвае вочы, уяўляючы нечаканае вяртаньне, Артур, пацалунак і гарачая ванна, пена да столі і потым *Paris Lumière* па TV 5, парыскія тэатры — яе страсьць, галоўнае выехаць на наўпростую дарогу, хуткасьць сто шэсьцьдзесят, бартавы кампутар з антырадарам будзе надзейна сыгналізаваць пра ДАІшныя патрулі.

Ганна ўключае запальваньне, памежнік доўга глядзіць на ейны профіль, шукаючы падабенства з пашпартным фотаздымкам, які, вядома, зроблены анфас, невыносныя сэкунды, калі ў сьвядомасьці адбіваюцца ўсе дробязі, кроплі поту на твары кіроўцы аўтобуса, голас па рацыі, які перадае прыкметы нейкага парушальніка, лёгкі ветрык, пошум лістоты, чыесьці крыкі, але гэта ўжо агонія, і праз хвіліну Ганна ўпэўнена набірае хуткасьць, галоўнае выехаць з памежнае зоны, напханай знакамі забароны й патрулямі, зрэшты, уся краіна памежная зона, пра гэта лепей не думаць, не псаваць сабе настрой і бізнэс Артуру, палітыка псуе густы, яна нарэшце знайшла стыль для наступнай выставы, гострыя, рэзкія абрысы ў дзюнах, паставы тонуць у жвіры, які цячэ праз пальцы, як жыцьцё.

Ганна крыху расслабляецца, пры хуткасьці пяцьдзясят краявід за вакном праплывае надта павольна, абрысы пагоркаў пачынаюць нагадваць штосьці няўлоўна знаёмае, пахі дзяцінства. Наперадзе нейкі дзівак няўпэўнена апускае руку, Ганна ніколі не спыняецца, ніколі не мяняе сваю аўтамабільную самоту на бязглуздае марнаваньне часу ў дарожных размовах, але пагоркі за вакном пахнуць чымсьці знаёмым, знаёмая пастава, і гэты гэст, нібы з далёкага ўспаміну, зь дзяцінства, не, гэта немагчыма, адкуль, пасярод дарогі, тут, праз столькі гадоў.

* * *

Міхал няўпэўнена апускае руку, безь якога-колечы спадзяваньня спыніць гэтую машыну, усё адразу пайшло ня так, як задумваў, ён выйшаў на патруль, кляцканьне затвораў, і ён, з торбай бэтакамаўскіх касэтаў і глупым кошыкам для грыбоў, поўны назад.

«Рэно» спыняецца праз дваццаць мэтраў, гэта не міраж, асьцярожна апусьціць кошык на зямлю, спакойныя, упэўненыя крокі, ён не сьпяшаецца, пачакаць, сесьці на задняе месца, дзякуй вялікі, вы мяне страшна выручылі.

Пагоркі за вакном пахнуць забытым мінулым, Ганна павольна кранаецца зь месца й паварочвае галаву, дэманстратыўна разглядаючы ў люстэрка чалавека на заднім крэсьле, аніякіх сумневаў, праз дванаццаць гадоў выпадкова падабраць на гэтай жа дарозе, Ганна трымае паўзу, смакуе гэтыя сэкунды маўчаньня, да таго як будуць прамоўленыя першыя словы, радасьць сустрэчы, банальная й непазьбежная.

Ліна?! Міхал нарэшце дазваляе сабе падняць голаў і крыху разгледзець эфэктную брунэтку ў апошняй мадэлі «Рэно», страшна знаёмы профіль, лёгкая гарбінка, няўжо, прайшло столькі часу, і вось гэтыя зялёныя вочы, да якіх ён аднойчы дакрануўся губамі.

* * *

Слова «аднойчы», як і тузін іншых словаў-падманак, спрабуе нэўтралізаваць загадку часу, разьбіваючы яго на сотні і тысячы дробных «аднойчы», кожнае зь якіх мае дакладны адрас (аднойчы тут, іншым разам там), скончаны, дакладны і самадастатковы, як прыступкі, але ўсё гэта ўрэшце скончаецца вялікім «аднойчы» нідзе, і ўжо няма аніякіх адгадак, толькі пустата, як быццам прыступкі раптам абрываюцца, у бездань альбо ў неба.

Міхал даўна ўжо не спрабаваў дзяліць на кавалкі тое, што аніяк ня дзеліцца, ён адчуваў час як вецер, які дзьме і выдзьмувае кавалкі твайго жыцьця, часам лагодна й ледзь заўважна, калі ўсё вакол амаль не варушыцца, а часам як ураган, але галоўнае не падманвацца, што ты некуды ідзеш, па прыступках альбо па дарозе, разьбітай на кавалкі дробных «аднойчы», насамрэч ты стаіш, нібы помнік, і вецер часу выдзьмувае зь цябе ўсё неістотнае, найменш трывалыя рэчы адыходзяць адразу, імпэрыі разваліваюцца, руйнуюцца гарады, і якая-небудзь сьціплая шафа застаецца з табой найдаўжэй.

Міхалу хацелася верыць, што вецер часу зьдзьмувае толькі абалонкі, але памяць, якая турбавала й не пагаджалася, зноў і зноў вяртала неістотныя дробязі, зь якімі не было як даць рады, і ён з жахам разумеў, што ягоныя вочы ўсё больш углядаюцца ў мінулае і што сапраўдная таямніца часу ў тым, што аднойчы не адбылося, хоць магло адбыцца, імкнулася да здарэньня...

* * *

...тысячу гадоў ніхто не называў яе Лінай, і Ганна раптам нямее, адчуваючы, як дзіўнае цяпло разьліваецца па яе целе, як яе сьвядомасьць раздвойваецца, і вось яна стаіць на пустой дарозе, дванаццаць гадоў таму, пад даждом, за дзесяць кілямэтраў ад Вялейкі, хіпушка-першакурсьніца, якая вырашыла праехацца аўтастопам да Вільні. Дождж, які раптам пачаўся ў прыцемках, старыя дрэвы паабапал дарогі, ціхі й цёплы летні дождж, і яна раптам штосьці зразумела, адчула, лёгкія пяшчотныя датыкненьні, кроплі вады зь неба, і вось яна павольна ідзе па дарозе, прымружыўшы вочы, з адчуваньнем немагчымага шчасьця, амаль не рэагуючы на машыны, нібы аголеная, аўто спынілася за дзесяць мэтраў перад ёй, яна моўчкі адчыніла дзьверы й проста села на задняе крэсла, да Алены, нічога не тлумачачы, з прасьветленым тварам, з адчуваньнем немагчымага шчасьця. Міхал вёў машыну, і было так лёгка, яны адразу ўсё зразумелі і таксама сталі шчасьлівымі, таксама адчулі гэты дождж, Алена загадкава ўсьміхнулася й наліла каньяку, хаця ў гэтым не было патрэбы, гэта Міхал першы назваў яе Лінай, і яна раптам прыгадала, што так і не сказала, як яе завуць, але гэта было неістотна, і было глупа пярэчыць, Ліна дык Ліна, Алена дапамагла зьняць мокрую вопратку, яна накінула стары плед, каньяк дадаў цеплыні і лёгкасьці, яшчэ крыху, і яна, напэўна, магла б паляцець, але яна проста сядзела, шчасная, слухаючы, як Міхал распавядае пра Ліну, дзяўчынку-медзьведзянятка з Картасаравай навэлы, якая спрабуе аўтастопам дабрацца ад Сант'яга да Капэнгагена, і, напэўна, у яе атрымаецца, і гэтая дзяўчынка сустракае па дарозе Марчэла, які прадае зборныя канструкцыі паўсюль, дзе толькі можна, яна слухала гісторыю крыху няўважліва, яшчэ каньяку, так, дзякуй, і ў самы адказны момант, у Самы Трагічны Момант, калі пасьля начы каханьня Марчэла высаджвае Ліну на дарозе, яна раптам пачала ціхенька напяваць сабе «за дахамі места...», ад залацістага цяпла цягнула на сон, яна засынала на хвіліну й прачыналася й раптам сапраўды адчула сябе Лінай з Картасаравай навэлы, Вільня, Капэнгаген, паўсюль ішоў цёплы дождж, і гэта была самае істотнае ў сьвеце.

Потым, у Вільні, у Аленавай аднапакаёўцы, заваленай эцюдамі й красьленьнямі, яны пілі чырвонае віно, прыгадваючы радкі й пэрсанажаў, і Ліне так хацелася слухаць, яна патрабавала музыкі, Міхал паставіў літоўскі джаз і, прамаўляючы гішпанскія словы зь незразумелым акцэнтам, інтанаваў Llamado Kindberg, a traducir ingenuamente por montana de los niños, гэта таксама было як цёплы дождж, які ўсё яшчэ ішоў за вакном, які дарыў шчасьце, было глупа пытацца пра імёны й адрасы, яны абавязкова сустрэнуцца, у Менску, Вільні альбо Капэнгагене, пад цёплым даждом, дамаўляцца — гэта значыць, не давяраць сусьвету, так добра сядзець на падлозе, абдымаючы Міхала й Алену, не, яны не каханкі, проста сябры, хаця й могуць сабе часам дазволіць большае, але без каханьня, каханьне зьнішчае таго, хто любіць, зьнішчае жаданьнем валодаць і не аддаваць, жаданьнем затрымаць імгненьне, быць заўсёды, усе мы медзьведзянятi пад даждом, і апошні тост за беднага Марчэла, якога няма з намі, нарэшце яны заціхаюць, зьняможаныя, на падлозе, а потым Міхал, які падыходзіць і асьцярожна цалуе яе ў вочы, у моцна заплюшчаныя вочы.

* * *

Дзіўнае цяпло разьліваецца па яе целе, і Ганна высілкам волі прымушае сябе быць тут, не праваліцца ў мінулае, туды, дзе засталася Ліна (дзе яна пакінула Ліну?), наіўную істоту без уласнай сутнасьці, гатовую распусьціцца ў сьвеце, гатовую ісьці пад даждом немаведама куды, размалёўваць клетку дзіцячымі малюнкамі, бо Ганна ведае, што сьвет — гэта клетка, цэля, лябірынт — бяз сэнсу, затое зь безьліччу вартаўнікоў і канвіраў, гатовых прывесьці на чарговы допыт (у чым сэнс твайго мастацтва? а што ты зрабіла для Радзімы? чаму ты ніколі не падаеш жабракам?), упарта ісьці да выйсьця, адстрэльваючы вартаўнікоў, што там, за гэтым выйсьцем, Ганна ня думала, бо галоўнае ісьці, не спыняцца, напэўна, яна не кахала Артура, бо каханьне — гэта заставацца тут, на месцы, а галоўнае прабрацца бліжэй да выйсьця, навонкі, у прастору, пра якую ніхто нічога дакладна не ведае, дзе маленькая балерынка зь яе карціны танчыць у атачэньні хіжых вачэй, што глядзяць з цемры.

Часам Ганна ненавідзела Ліну, даверлівую дзяўчынку, якая не задае пытаньняў, нікуды не сьпяшаецца, і якая, здаецца, зусім не зьбіраецца аднойчы памерці, дзяўчынку-медзьведзянятка (саторы ў Вялейцы, дзякуй, чыталі мы вашага Судзукі), але цяпер пагоркі пахлі чымсьці знаёмым, прайшло столькі часу, і Ганна раптам адчула, што ёй нават падабаецца быць крыху раздвоенай, мець побач яшчэ аднаго пасажыра, бо няма сумневаў, гэта яна, Ганна, вядзе гэтую машыну, яна кіруе і выбірае дарогу, дык чаму б не дазволіць сабе дзяўчынку-медзьведзянятка з забытай гісторыі, якая ціха сядзіць на заднім крэсьле і штосьці мармыча побач зь Міхалам, так, Міхал сядзіць і чакае, паўза зацягнулася, знайсьці лёгкі тон, і вось ужо першыя словы, — сьмешна, як усё супадае, зноў аўтастоп, гэта наканавана, памятаеш, як мы чыталі апавяданьне, пра Кіндбэрг, і што ў нас са зборнымі канструкцыямі, ці заняўся хтонебудзь? Міхал раптам разумее, што нічога немагчыма патлумачыць, патрулі, касэты — усё гэта ў будучыні, яшчэ мусіць адбыцца, а размова адбываецца ў мінулым, а таму застаецца прыняць усё, як было, і вярнуцца назад, на мокрую сьлізкую дарогу, у адзін зь летніх дзён, у мястэчка Кіндбэрг, — вядома, як можна ня памятаць такія рэчы, з канструкцыямі цяжка, прыходзіцца займацца разборнымі — даўна забытая гіронія, лёгкая будысцкая безнадзейнасьць узору 1987 году, і раптам асьцярожнае маўчаньне — ці не замнога прамоўлена ў гэтай гульні словаў, ці не спрабуе ён зблытаць памяць і жаданьні.

Праз некалькі кілямэтраў паварот на Смаргонь, а потым далей на Вялейку, і Ганна пачынае крыху хвалявацца, праз дванаццаць гадоў Вялейка, маленькая Вільня, мястэчка Кіндбэрг уласнай пэрсонай, дзіцячая гара, якая можа вярнуць цябе назад у дзяцінства, Ліна на заднім крэсьле штосьці сьпявае, Ганна спакойная і ўпэўненая, гэта яна вядзе машыну, яна выбірае дарогу і плаціць па рахунках, Міхал замаўкае, а вось і заварот, крыху прытармазіць, а потым рашуча налева, заедзем у Вялейку, замовім гатэль, я люблю гэтыя правінцыйныя гатэлі, яны цяпер цалкам пустыя, паблукаем, вып'ем добрага віна, пазвонім Алене ў Вільню, адчуць гэтую інтанацыю спакойнай упэўненасьці, яна можа сабе дазволіць маленькую дзіцячую казку, у якой героі сустракаюцца праз дванаццаць гадоў, вядома, яна не тэлефанавала Артуру, яна любіла вяртацца нечакана.

* * *

У мястэчка Кіндбэрг добра заяжджаць пад вечар, калі ад будынкаў застаюцца адно цьмяныя абрысы, якія плывуць у цёплым празрыстым паветры, стагодзьдзямі тут анічога не мяняецца, часу проста няма, яму тут няма чым заняцца, хіба што паціху расьцярушваць мясцовую царкоўку, касьцёл і руіны сынагогі, помнік Леніну на галоўным пляцы ўжо таксама стаўся руінай, ён амаль не вытыркаецца, а сам правадыр, здаецца, ужо гатовы разам з усімі прадаваць бульбу на мясцовым кірмашы, вядома, яна памятае дарогу, спачатку гатэль, апартамэнты на двух асобаў, калі ласка.

Кампары зь ільдом, адзінае, што можна піць у мястэчку Кіндбэрг, адзінае, што ёсьць у бары, акрамя мясцовай гарэлкі і падазроных настоек «са смакам ківі», Ганна страшна доўга стаіць пад душам, быццам змываючы зь сябе дванаццаць гадоў, Ліна расплюшчвае вочы і выходзіць, адчуць гэтае цела як быццам упершыню ў жыцьці, Міхал глядзіць на яе, расслаблена, згубіўшы адчуваньне часу, глядзіць, як яна выходзіць з вады, з мокрымі валасамі, глядзіць на лінію сьцёгнаў, на вусны і раптам разумее, што гэта Ліна, што немагчымае вяртаньне ў мінулае адбылося, і Ліна, дзяўчынка-медзьведзянятка, толькі з-пад даждю, стаіць перад ім, аголеная, Алена, дарэчы, у Каліфорніі, хтосьці мусіць заставацца, хтосьці мусіць любіць гэтыя пагоркі, Міхал адводзіць мокрыя кудзеркі валасоў, ягоныя рукі сасьлізгваюць уніз, туды, дзе плечы, грудзі, і супакойваюцца на выгіне сьцёгнаў, супакойваюцца перад тым, як канчаткова патануць у шале, на рыпучым дабітым ложку, у гатэлі-руіне прамінулай індустрыйнай эпохі, у адным з магчымых часоў гэтага прывіднага жыцьця ў няяснай краіне.

* * *

Ганна прачынаецца першай, паварочвае галаву, халодна ў гэтых правінцыйных гатэлях, душ, крыху макіяжу, зрэшты, няма пра што шкадаваць, часам варта выпасьці са звыклага рытму, Артур не зьвяртае ўвагі на такія рэчы, ён не раўнуе да мінулага, а гэта ўсё адбылося ў мінулым,

дванаццаць гадоў таму, пэўна, голас у тэлефоне ў трэці раз паўтарае, што няма ніякіх сьняданкаў, ніхто тут і ня чуў пра сьняданкі ў гатэлі, рэстарацыя праз квартал пачынае працаваць а дванаццатай, дзіўнае адчуваньне пустаты, Міхал расплюшчвае вочы й глядзіць на эфэктную брунэтку, такую знаёмую й такую чужую, бізантыйскі профіль, які так падабаецца Артуру, глядзіць, як з кожнай сэкундай зьнікае Ліна, зрэшты, немагчыма заставацца медзьведзяняткам у трыццаць, калі цябе штохвілінна шліфуе час, пакідаючы адно гострыя абрысы ў пясчаных дзюнах, застаецца толькі застыць, нібы камень, спадзеючыся, што час выкрэсьліць выпадковае, Міхал углядаецца і ўпершыню бачыць Ганну, што стаіць перад люстэркам, Ганну, якая ведае, што такое руіны, ведае, што такое выбіраць, адмаўляцца і плакаць, эфэктную брунэтку ў апошняй мадэлі «Рэно», выстава ў Празе, халоднае жыцьцё ў няснай краіне.

* * *

Так хараша й крыху трывожна, Кіндбэрг, мястэчка, адкуль выяжджаеш зранку, у поўным шчасьці, можна крыху расслабіцца, спакойна маўчаць, забыцца, зноў гэтыя патрулі, Ганна спыняе машыну, вось даверанасьць і тэхпашпарт, калі ласка, адчуць трывожны пагляд Міхала, ягоная нага выстуквае нейкі рытм, ён відавочна захваляваўся, а цяпер вашыя дакумэнты, адкуль едзеце, адзін застаецца каля машыны, другі ідзе нешта спраўдзіць па рацыі, так доўга, адчуць халодны спакой Міхала, Ганна паварочвае галаву, ягоныя вочы, з шчасным і безнадзейным адчаем, варушэньне вуснаў у разьвітальным пацалунку, што адбываецца, хрыплы голас у міліцэйскай рацыі, так, гэта ён, безнадзейна халодныя вочы Міхала й цьмяная здагадка, учарашнія паведамленьні, жарт пра разборныя канструкцыі, апісаньне парушальніка, пакінуты на дарозе кошык для грыбоў, эфэктная брунэтка ў апошняй мадэлі «Рэно». Адчуць непрамоўленае жаданьне Міхала, так, гэта магчыма, адпусьціць счапленьне, разгон за шэсьць сэкундаў, а потым згубіцца дзе-небудзь сярод лесу, толькі трэба націснуць на газ, забыцца пра тое, што будзе потым, непрыемнасьці ў Артура, яе выстава ў Празе, трэба толькі зрушыць, націснуць на гэты халерны пэдаль. Дзіўнае цяпло разьліваецца па яе целе, салодкая амарока, ад якой няма паратунку, нага сама цягнецца да газу, яшчэ крыху, забыцца на ўсё, Ганна амаль што гатовая зрабіць гэта, і раптам пранізьлівае разуменьне, што гэта не яна, а Ліна спрабуе цяпер націснуць на газ, што гэта Ліна была зь Міхалам у гатэлі, толькі Ліна можа і мае права на такія ўчынкі, толькі яна ня плоціць па рахунках, і Ганна нерухомее ў здранцьвеньні, апошняй помсьце, апошняй перамозе над наіўнай дзяўчынкай з забытае навэлы, якая так настойліва ўблытваецца ў ейнае жыцьцё, дзяўчынкай-медзьведзяняткам, маленькай балерынкай у атачэньні хіжых вачэй, што глядзяць зь цемры.

Хрыплы голас па рацыі, прафэсійныя рухі, выходзьце з машыны, пісталет Макарава, болей ня раім нікога падбіраць на дарозе, шчасьліва дабрацца да Менску, Ганна паварочвае галаву й адчайна глядзіць яму ў сьпіну, навошта наручнікі, словы захрасаюць у горле, напэўна нейкая спазма, што вы чакаеце, шчасьліва дабрацца да Менску.

З маленькага беларускага мястэчка Вялейкі лепш за ўсё выяжджаць зранку, і Ганна нарэшце адпускае счапленьне і кранаецца зь месца, эфэктная брунэтка ў апошняй мадэлі «Рэно», крэйсэрская хуткасьць сто шэсьцьдзесят, бартавы кампутар з антырадарам, любіць простыя дарогі, без ухілаў, гострыя, як страла, вакол вецер, і дрэвы зьліваюцца ў адзін шэраг, у адну куламесу, наперадзе гарачая ванна, *Paris Lumière* па TV 5, які ўжо дарэчы пачаўся, сёньня мы наведаем невялічкі тэатр у *Café de la Gare* на *rue de Temple*, маленькі аматарскі тэатар для беспрацоўных актораў, маленькі тэатрык на вуліцы, затлумленай дарэшты кітайскімі аптовымі крамкамі, на пачатку семідзясятых тут гралі *Coluche* і *Miou-Miou*, ня кажучы пра Дэпард'ё, камэра павольна, страшна павольна наяжджае на фотаздымак маладога Дэпард'ё ў фае, пакуль Ліна, схіліўшы галаву на руль, да апошняга выціскае газ і выяжджае на сустрэчную паласу, у адчайным безразважным гэсьце, адным з тых, якія так любяць рабіць дзяўчынкі-медзьведзяняткі. ■




Малюнак Уладзімера Адамчыка.

# Суайчыньнікі-7

Адам ГЛЁБУС

**КРЫВАБЛОЦКІ**

Манумэнталіст Уладзімер Крываблоцкі ў часы вучобы ў тэатральна-мастацкім інстытуце тысячу разоў прысеў на адной назе. Прысядаў дзеля выйгрышу ў спрэчцы. Вось які я асілак! Магу тысячу разоў прысесьці! Прысеў, пяцьсот на правай і пяцьсот на левай, выйграў спрэчку й апынуўся ў бальніцы. Сэрца ня вытрымала амбітнасьці. Адзіны станоўчы вынік таго подзьвігу — Крываблоцкага не ўзялі ў савецкае войска.

**ГРЫБ**

Фатограф Цімур Грыб у сямнаццаць гадоў сфатаграфаваў уласны чэлес і ўсім паказваў картку. Пэўна, з таго твору й пачаўся Цімураў шлях. Цяпер ён вядучы фатограф у расейскай вэрсіі «Плэйбою».

**БАГДАНОВІЧ**

Калі Харэўскі ці Бартосік, або яшчэ хто з постнашаніўцаў распавядаюць пра вандроўкі на чаўнах па беларускіх рэчках, мяне асабліва цешыць момант пра стому ад маханьня вяслом: «Так намахаесься вяслом, так намахаесься, ну ты разумееш, што сьпіш, як забіты!» Не разумею, бо на памяць вучыў у юнацтве верш Максіма Багдановіча: «Проці цячэньня вады зможа толькі жывое паплыць. Хвалі ракі заўсягды цягнуць тое, што скончыла жыць». А Бартосік з Харэўскім, вядома, плывуць па цячэньні, як забітыя.

**ШАРАЕЎ**

Малявальшчык з Магілёва Рыгор Шараеў паспрачаўся на скрынку каньяку, што за дзьве гадзіны зьесьць пятнаццаць біфштэксаў зь яйкам і картапляным пюрэ. Шараеў спрэчку прайграў. Зьеў толькі дзевяць. Астатнія яйкі зь мясам даелі гледачы.

**КРУКАЎ**

Афармляльнік зь мястэчка Рось Міколка Крукаў паспрачаўся на бутэльку гарэлкі й смажанага гусака, што вып'е з рыльца паўбутэлькі сланечнікавага алею. Выпіў. Званітаваў, але пачастунак паймеў.

**ХАЦКЕВІЧ**

Мастак зь Менску Генадзь Хацкевіч пайшоў у заклад, што выйдзе на праспэкт насупраць будынку КГБ, стане пасярод вуліцы на выспачцы бясьпекі, распранецца да пояса й станцуе ўпрысядкі. Пакуль гарэла чырвонае сьвятло, Гена танчыў. Міліцыянт зрабіў выгляд, што ня бачыць непарадку. Хацкевіч зарабіў дзесяць савецкіх рублёў, чвэрць стыпэндыі.

**СТАСЕВІЧ І МАСЬЛЕНІКАЎ**

Паспрачаліся менскія карцінщыкі Іван Стасевіч з Іванам Масьленікавым з-за калідорчыка перад майстэрнямі. Кожны панамалёўваў столькі карцін, што ў майстэрню не зьмяшчаліся. Вось і забіўся калідор палотнамі. Так забіўся, што не паварнуцца. Адзін Іван сказаў другому, каб той прыбраў сваю мазьню. Другі пакрыўдзіўся й папрабіваў дзіркі ў карцінах крыўдзіцеля. За што пабачыў дзіркі ў сваіх палотнах. Апагеем сваркі сталася абзываньне аднаго й другога Івана «жыдам». Былі суды, але ў судах праўды няма.

**БАРТАШЭВІЧ**

Рэклямны фатограф Аляксандар Барташэвіч не стамляецца паўтараць, што ніколі ня будзе размаўляць па-беларуску. Адвучыўшыся два гады ў тэатральна-мастацкім інстытуце ў Міхася Раманюка, зьнітоўвае прычыну сваёй нелюбові да мовы з постацьцю свайго вышэйзгаданага выкладчыка. У кожнага Аляксандра ёсьць свая прычына, ці сотні прычынаў, каб не любіць беларускае слова. Кожны зь іх вышуквае ўсё новыя й новыя акалічнасьці для нелюбові, замест таго, каб знайсьці адну прычыну, каб палюбіць сваю мову й самога сябе.

**УЛАСАЎ**

У ізастудыю я прынёс малюнак — сінія дрэвы й чырвонае сонца. «Ты нашто намаляваў памідор замест сонца?» — спытаў у мяне выкладчык Уладзімер Уласаў. І сапраўды, я ўбачыў на малюнку вялікі сакавіты памідор. Праз трыццаць гадоў, паміж Нэапалем і Рымам, у гарадку Гаета, я сядзеў у кавярні й глядзеў, як вялікі сьпелы памідор коціцца за гару, а тысячы маленькіх сонцаў глядзелі на мяне з гародаў.

**САВІЦКІ**

У вайсковай вучэльні мастакі ладзілі выставу. Вайскоўцы прапанавалі ім пастраляць. Нехта з мастакоў жартам сказаў, што найвялікшы беларускі мастак — той, хто лепш за астатніх страляе. Мікола Селяшчук расказаў, што Міхаіл Савіцкі пацэліў дзесяць зь дзесяці, астатнія і блізка не наблізіліся.

**КАШКУРЭВІЧ (СТАРЭЙШЫ)**

Кніжны графік Арлен Кашкурэвіч думаў, што Рэната Гутуза — мастак, варты перайманьня. Кашкурэвіч памыляўся, гэта выдатна відаць у Італіі. Але Кашкурэвіч у Італіі ня быў, і яму можна даравацъ перайманьне з Гутуза.

**КАШКУРЭВІЧ (СЯРЭДНІ)**

Мастак, ар'ергардыст авангарду Ігар Кашкурэвіч у юнацтве за бутэлькай партвэйну мог гадзінамі разважаць, які ён манагам у адносінах да любімай жанчыны — Алены Шыдлоўскай. Алена памерла. Ігар ажаніўся трэці раз, цяпер зь нейкай немкай, і зьехаў жыць у Бэрлін, дзе, пэўна ж, зноў за бляшанкаю піва распавядае пра сваю манагамію.

**ШЧАМЯЛЁЎ**

Заробак мастака ў савецкія часы залежаў ад уменьня маляваць Леніна, падобнага да Леніна. Канкурэнцыя ёсьць і пры камуністах. Мастакі толькі й займаліся, што казалі адзін пра аднаго: «У яго Ленін ну зусім не падобны да Леніна». Леанід Шчамялёў выйшаў з сытуацыі наступным чынам... Недзе дастаў пасьмяротную маску Леніна. Пусьціў пагалоску, што маска найсапраўднейшая, сорак першы адбітак. Цяпер ён малюе Леніна з гэтае маскі, таму праваднр сусьветнага пралетарыяту ня мае права быць непадобны. Між іншым, ні Леніны, ні Даватары, ні Савіцкія з Быкавымі на карцінах Шчамялёва не падобныя да арыгіналаў. Падобнай атрымлівалася толькі жонка Сьвятлана, але гэта пра іншае.

**ЛЯМАЧКА**

Багамаз Вячаслаў Лямачка аславіўся ў мастацкай вучэльні досыць незвычайным учынкам. Студэнтаў паслалі на бульбу. Слава зьбіраў бульбу, як і ўсе. А вось кожную раніцу ён хадзіў на паляну й рабіў па-вялікаму. Ён рабіў так тры тыдні. І нарэшце скончыў слаўны твор. Запрасіў усіх паглядзець. На паляне было выкладзена зь вітушак гною досыць вялікае слова «Слава». Лямачка даў... Так усе казалі. Калі Слава напісаў карціну «Трактарысты абедаюць», усе пыталіся: а калі ты намалюеш «Трактарысты серуць»? Лямачка не крыўдаваў. Ён чалавек з гумарам. Цяпер Вячаслаў малюе Хрыстоў у пустэльнях. Слававы Хрысты сядзяць на камянях і нібыта думаюць.

**ШАБЛОЎСКАЯ**

Літзнаўца Ірына Шаблоўская запэўнівае сябе й астатніх, што «існуе жаночая проза і паэзія, і драматургія». Безумоўна. Толькі зусім неабавязкова тую прозу, паэзію й драматургію пісалі асобы жаночага полу. Прыклад? Калі ласка. У галіне скульптуры. Хіба хто скажа, што «Работніка й сялянку» ў Маскве, каля ВДНХ, зрабіла жанчына? Яе прозьвішча Мухіна. Ну і што? Твор цалкам мужчынскі.

**АДАМЧЫК**

Пісьменьнік Вячаслаў Адамчык, мой бацька, дарэчы, паспрачаўся з капітанам падводнае лодкі. Хто далей кіне камень. І раз, і другі, і трэці падводнік кінуў далей. Тады бацька выцягнуў пас, склаў у прашчу й закінуў камень на выспу ў Камсамольскім возеры. ■

# НАД ПОПЕЛКАЙ

## Гісторыя

Калі гішпанскі манах Раман Пано ў 1496 годзе вяртаўся дадому ў складзе другой экспэдыцыі Калюмба, ён і думаць ня мог, што, везучы мяшэчак насеньня кахобы (гэтак індэйцы называлі тытунь), дае чалавецтву бадай самы прывабны інструмэнт самагубства.

Папраўдзе, вінаваціць божага чалавека няма ў чым, бо пра тое, што гэтую дэкаратыўную расьліну сямейства пасьлёнавых можна ўжываць, сьвету распавёў іншы гішпанец — Гanзала-Эрнандэс дэ Аўеда. У 1535 годзе ён выдаў кнігу падарожжаў па Амэрыцы, дзе апісаў, як жыхары вострава Гіспаньёла спраўляюць звычай «табако» — падпальваюць «нешта кшталту блёкату», цягнуць носам дым і п'янеюць.

Усё нічога, калі б не французы са сваім заканадаўствам у модзе. Партугальскі пасол у Парыжы Жак Ніко (адсюль — «нікатына») паднёс у 1560 годзе францускай каралеве Кацярыне Мэдычы, што пакутавала на мігрэні, капшук цудадзейнага парашку для нюханьня й паленьня; сродак дапамог — галаўны боль суцішыўся — і пайшла хваля рэклямы па ўсім Старым Сьвеце...

Падручнік па мэдыцыне, выдадзены ў Базэлі ў 1625 годзе, рэкамэндуе «пасольскую траўку» ўжо як панацэю ці не ад усіх хваробаў: маўляў, ачышчае ды аздараўляе мазгавыя сокі, паднябеньне й галаву; расьсейвае боль і стому; супакойвае зубныя пакуты; зьберагае ад чумы; праганяе вошы; лечыць рожу, застарэлыя раны, нарывы й г.д.

Тады сама распачынаецца барацьба з д'ябальскім зельлем: у Сант'яга замуроўваюць жыўцом пяцёх манахаў, бо тыя палілі цыгары пад час вечаровай імшы; на лёндранскіх плошчах выстаўляюць для агляду адсечаныя галовы выкрытых курцоў зь люлькамі ў ратах; у Расеі, «чтобы нигде табак не держали и не пили», асабліва пасьля таго, як Масква чарговы раз у 1634 годзе пайшла дымам, курцоў катуюць да сьмерці, іхную маёмасьць распрадаюць, а тытунёвым гандлярам «поруць ноздры, рэжуць насы і ссылаюць у далёкія гарады».

Рэч Паспалітая на гэтым тле выглядала выспаю дэмакратыі й гуманізму: табакакурэньне ў тагачасных заканадаўчых актах увогуле ня згадваецца, а на ўкраінскіх землях засейваецца першыя тытунёвыя плянтацыі, і казакоў ужо цяжка сабе ўявіць без традыцыйнай люлькі (на якую прамяняў жонку неабачлівы Сагайдачны са знакамітай песьні).

## Бізнэс

Да канца XVII ст. неадэкватна жорсткія законы паўсюдна былі скасаваныя й зьмяніліся падаткамі на вырошчваньне й продаж тытуню. У Ангельшчыне й Галяндыі заклалі першыя тытунёвыя фабрыкі. Зьявіўся новы артыкул дзяржаўнага даходу, актуальны да сяньня для ўсіх краінаў без выняткy.

Цяпер на зямным шары пасевамі Nicotiana tabacium занята каля 5 млн. гектараў лепшых, даржэчы, земляў, ураджай зь якіх складае штогод блізу 7 млн. тон. Штодзень па ўсім сьвеце выкурваецца прыблізна 30 млрд. цыгарэтаў, то бок па 5 на кожнага чалавека, з улікам немаўлятаў.

Узяўшы калькулятар, нескладана прыкінуць гадавы абарот гэтай індустрыі, калі кошт пачка цыгарэтаў складае ў сярэднім адзін даляр — $550 млрд. І гэта без уліку вытворчасьці цыгараў (кошт за штуку сягае $50), цыгарылаў, зажывальнай і жавальнай табакі.

Доля Беларусі ў тытунёвым бізнэсе плянэты — 0,05% аб'ёму вытворчасьці ды 0,03% валавай грашовай выручкі. Мала. Адстаем ад іншых краёў у 5—10 разоў. Беларускія вытворцы (фабрыка «Нёман» і ціцянкоўскі «Табак-інвэст») не пакрываюць і паловы патрэбаў айчынных курцоў, ня кажучы ўжо пра аграмадныя суседзкія рынкі. Таму цалкам лягічна выглядаюць пляны выправіць сытуацыю праз пабудову новых вытворчых магутнасьцяў і пашырэньне сельгаспалеткаў.

У сьвеце практыкуюцца два спосабы мінімізацыі шкоды, якую наносіць тытунёвы бізнэс: паступовае падвышэньне акцызаў і ўвядзеньне больш жорсткіх стандартаў якасьці тытунёвай прадукцыі.

Акцызы, то бок дадатковыя падаткі, паводле падліку амэрыканскага «Нацыянальнага цэнтру па курэньні і здароўі», павінны складаць ня менш за 60% ад розьнічнага кошту цыгарэтаў, інакш выгоду маюць толькі тыя, хто гэтым бізнэсам беспасярэдне займаецца, а грамадзтва ў цэлым губляе на лячэньні людзей (прамыя страты) і ад зьніжэньня прадукцыйнасьці працы (непрамыя страты).

Стандарты вызначаюць утрыманьне шкодных рэчываў у дыме аднаго цыгарэты. Акрамя нікатыны (ад 0,4 да 5,5 мг на цыгарэту; сьмяротная доза — 60 мг), там ёсьць бэнзапірэн, сінільная кіслата, фармальдэгід, серавадарод, аміяк, ДДТ — усяго каля 30 найменьняў. Яны ўваходзяць у склад смолаў, якія, акрамя раздражняльнага ўзьдзеяньня на сьлізістыя, валодаюць і канцэрагенным эфэктам.

## Хваробы

Верагоднасьць захварэць на рак лёгкіх у курцоў узрастае ў 5—10 разоў, на рак гартані — у 6—10 разоў, на рак стрававода — у 2—6 разоў. Сьмяротнасьць курцоў у маладым узросьце на 30—40% вышэйшая, чым некурцоў, і яна ўзрастае прапарцыйна стажу й інтэнсыўнасьці паленьня. Пасьля 40 гадоў чалавек, які ня курыць, мае шанцы пражыць на два гады больш, чым памяркоўны курэц, і на 10 гадоў больш, чым актыўны. Тыповымі для курцоў хваробамі ёсьць язва страўніка й дванаццаціпальцавай кішкі, запаленьні роту (стаматыт), дзёснаў (гінгівіт), крохкасьць зубоў, жаўцізна й бляклась вачэй, няроўны колер скуры, грубасьць голасу. У курцоў-мужчын у паўтары разы зьніжаная рухомасьць спэрматазоідаў (а значыць, і апладняльная здольнасьць), у значнай ступені блякуецца выдзяленьне тэстастэрону (як наступства — імпатэнцыя). Арганізм жанчыны, якая курыць, старэе на 20% хутчэй. Месячных няма ў 65% 44—53-гадовых такіх жанчынаў. Сьмяротнасьць навародкаў на 40% вышэйшая, калі маці паліць.

Прыкладна 98% курцоў лічаць паленьне шкодным, і дзьве траціны робяць шматлікія няўдалыя спробы кінуць дрэнную звычку. Высновa адна — лепш і не пачынаць.

Вадзім Карцаў



Фота Міхала Баразны.

Наша Ніва 90 гадоў таму

## Як бараніцца ад халеры

*10 верасьня 1909 году*

У жываце пачынаецца бурганіна, боль, колькі, крыху вольнасьць, пачынаюцца ваніты, галава баліць, пад ложачкай цісьне, ікры пабаліваюць, цела робіцца халодным. Гэтыя лёгкія знакі хваробы праз некалькі часу пераходзяць у цяжэйшыя: ваніты і вольнасьць жывата робяцца часьцей, становяцца рэдкімі і мутнымі, падобнымі да мучной юшкі, сілы штораз слабнуць, рукі і ногі корчыць, вочы і шчокі западаюць, вусны і канцы пальцаў сінеюць, і цела робіцца яшчэ халаднейшым, зь яго выступае халодны клейкі пот, мача не ідзе; голас зьмяняецца, сіпне і зьнікае.

Вось тыя знакі, па каторых пазнаецца халера. Каб не баяцца гэтай хваробы і ўмець ратаваць свайго брата, трэба ведаць, што хвароба заўсёды прыстае да чалавека *толькі праз вусны* — зь ядой; а так хаця бы мільёны халерных жывучак, каторыя калам і ванітамі выходзяць з хворага, узяць на рукі і доўга іх трымаць, то ўсё-ж такі зараза не прыстане.

Рабіць жа зараз трэба вось што: пасьлаць перш-наперш па доктара, хворага палажыць у асобную камарку, з каторай усё непатрэбнае вынесьці, каб хворы ванітамі і сьлінай не забрудзіў, ды прыкрыць хворага цяплей; прыгатаваць начыньне на ваніты і да ветру, а пасьля, скоранька загатаваўшы ваду, рабіць жывату цёплую прыпарку, або лепш аблажыць яго бутэлькамі з гарачай вадой, завярнуўшы іх у палатняныя рызачкі, ці аблажыць жывот торбай з гарачым попелам або аўсом; палажыць пад ложачку гарчычнік; не даваць хвораму саўсім есьці, апроч патроху цёплай гарбаты, румянку або мяты, дадаючы для сілы крыху чырвонага або жоўтага віна.

Гарэлкай ратавацца ад хваробы нельга. Гарэлка, а асабліва няшчасная «палітура», яшчэ горш шкодзіць, бо робіць катар-жывата і ніштычыць у ім квас, што надта памоцны ў хваробе, бо забівае халерных жывучкі. Найлепшая асьцярога — *ня піць сырой вады*, ані сырога малака, ня есьці сырыны, не абваранай варам, часьцей мыць рукі, сьцерагчыся прастуды і жыць акуратна, а найперш за ўсё — кінуць піць гарэлку.

*А. Гр.*, Пецярбург

## прыватныя абвесткі

**Набуду цымбалы** «Прыма» б/в. Танна. Тэл.: 275-59-89, Ірына

Штосуботу а 18-й у ТБМ (Румянцава, 13 — ст.м. «пл.Перамогі») — прагляды **відэа па-беларуску**

Новая беларуская газэта **«Палімпсэст»**. Выходзіць ад верасьня. Ад Вас — чыстая капэрта. Полацак, 211409, а/с 29

**Калі** ты любіш Беларусь і захапляесься беларускім рокам («NRM», «Уліс», «Крама», «Палац», «Крыві», «Новае Неба» і інш.), Малады Фронт чакае цябе штоачацьвер з 18.00 на Варвашэні, 8

Шырокі выбар **CD, касэтаў, плякатаў беларускай музыкі** (рок, поп, джаз, клясычная і бардаўская музыка). 220085, Менск, а/с 5, тэл.: (017) 249-08-88. Зацікаўленыя ў супрацоўніцтве

Прымаюцца прапановы на тыражаваньне і дэманстрацыю ў відэаклюбе ТБМ **відэапраграмаў на беларускай мове**. Тэл.: 240-78-01, 213-43-52. 220107, а/с 150. Станішэўскі Віталь

**«Слова Нацыі»** ў Інтэрнэце: www.geocities.com/CapitolHill/Embassy/1055. Зайдзі!

**Запрашаем у беларускамоўнае асяродзьдзе** для авалоданьня роднай культурай, набыцьця сяброў, аднадумцаў і самасьцьвярджэньня. Даведкі штовечар з 18.00 да 19.00 па тэл.: 235-80-96. Язэрскі Сяргей

Вядомы ў краіне прадстаўнік сэкс-меншасьці — гей, вельмі вопытны. Адукаваны, разумны, **шукае сябра.** Магчыма сям'я і сумесны здым пакоя. Захапленьняў шмат. 220073, а/с 187. Артур

**Відэафільмы па-беларуску** («Пяты элемэнт, «Ісус» і інш. відэафільмы). Продаж, запіс. Падпіска на «Адважнае сэрца». Віталь Станішэўскі, 220107, Менск, а/с150. Тэл.: 240-78-01

**Сабралася Эўропа** ўгаворваць Лукашэнку. Цырк на дроце! Яна і Мілошавіча ўгаворвала. Вячаслаў Мілкоўскі

**Малафееву Анатолю, Шыпуку Паўлу:** Мы Крывічы, а ня Русь Літоўская, Варaская ці Маскоўская, Белая ці Чорная; мы асобны славянскі народ, не правінцыйная чыясь адмена. Вацлаў Ластоўскі

**«Беларуская дошка абвестак»** — www.geocities.com/CapitolHill/Congress/3310

**Бяз роднай мовы**, якую даў Бог, нельга пагаварыць з Усявышнім, памаліцца. З чужой мовай Ён не прымае. Ангеліна Масюта

**Ізноў** дыхае каменьне. Скідваюць летаргію Багі. Крывэ-Крывэйтэ распасьцёр да Цябе рукі. Продкава Вера кліча да Еднасьці! 220086, Менск, а/с 121

**Гішпанская і ангельская** мовы: рэпэтытарства, пераклады. Тэл.: 248-61-38 (Анатоль, раніцай і ўвечары)

**Газэта прымае таксама абвесткі большым шрыфтам за невялікую плату**

*— да 20 словаў — **50 000** руб., звыш 20 словаў — **70 000** руб.;*

*— па-мастацку аформленая аб'ява – **20 000** руб. за 1 кв. см;*

*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **40 000** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

## паштовая скрынка

**Аляксею Ш.** зь Менску. *Чым Ваша вандроўка адрозьніваецца ад паездак соцень тысяч іншых буржуа, якія таксама мелі 200 даляраў на дваіх, куплялі пэрсікі за 6 грыўняў за кілё, сядзелі зь сяброўкай у рэстаранчыку і насілі з адзеньня (адзеньня: бо вопратка — гэта паліто, футра, марынарка і г.д.) толькі плаўкі й шорты, што ствярала для іх прыемнае ўражаньне ўсеагульнай роўнасьці, асабліва пасьля выпітага не пладова-ягаднага віна? У Вашым творы зашмат гэтага самага буржуазнага «я»: **я** навучыўся плаваць, **я** адчуваў сябе «новым рускім»... Чытач «НН» не зідэнтыфікуе сябе з гэтым «я» і не зразумее, навошта ён гэта прачытаў — бо Вы неапраўдана зьмешваеце жанры рэпартажу (зьвяздоўскага «Рэпарцёр атрымаў заданьне... Паехаць у Крым») і пекнага нарысу. Бо «абсалютна распранутым» можна ўначы і ў Цнянцы купацца, і «займацца пасьля гэтага сэксам прама на беразе», і «цікаваць за табою пры гэтым» будзе ня менеей вачэй.*

**Юр'ю М.** зь Менску. *Як для філязофіі, Ваша тэорыя занадта «будзённа-пабытовая».*

**Сяргею Б.** зь Белага Балота. *Такое «апавяданьнейка» магло б добра чытацца, калі б было падразьдзелам з аповесьці, але само сабою закароткае, і ўжо гэтым выклікае недавер.*

**Марату Г.** зь Менску. *Пераможа, дзякуючы такім людзям, як Вы.*



НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2816. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 22:11, 19.09.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4737. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.